**Кошт 1 лат 60 сантымау.**
**У вокладцы 1 лат 80 сант.**

К. ЕЗАВІТАЎ.

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА

## ПЕРШАЯ ПАСЬЛЯ ЛЕМАНТАРА КНІГА ДЛЯ ЧЫТАНЬНЯ.




РЫГА — 1926.
ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА АДДЗЕЛУ ПРЫ МІНІСТЭРСТВЕ АСЬВЕТЫ Ў ЛАТВІІ.

Яго Міласьці

Высокапаважанаму Грамадзяніну

К. Дэмчу

сябру Латвійскага Дзяржаўнага Сойму

ад аўтара К. Езавітаў




**К. ЕЗАВІТАЎ.**

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА.

ПЕРШАЯ ПАСЬЛЯ ЛЕМАНТАРА

**КНІГА ДЛЯ ЧЫТАНЬНЯ**

у беларускай аснаўной школе ў Латвіі.




РЫГА — 1926.

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА АДДЗЕЛУ
ПРЫ МІНІСТЭРСТВЕ АСЬВЕТЫ Ў ЛАТВІІ.

Усе клішэ, зьмешчаныя ў кнізе, зьяўляюцца ўласнасьцю аўтара і без ягонай згоды ня могуць быць перадрукаванымі.

Кніга друкавана па асобаму заказу Беларускага Аддзелу, у ліку 625 экзэмпляраў, у тыпаграфіі Г. Іге, Рыга, Гертрудзенская вуліца № 80.

Склад выданьня — у Беларускім Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы, Рыга, Валдэмараўская вуліца № 36-а.



# Настаўніку.

У першыя 5 гадоў сваёй працы ў Латвіі, беларуская пачатковая школа карысталася беларускімі падручнікамі, друкаванымі ў Вільні.

Заняпад беларускага выдавецтва ў Заходняй Беларусі, адбіўся і на беларускай школе ў Латвіі. — Ужо з мінулага вучэбнага году мы войстра адчуваемо нястачу самых элемэнтарных падручнікаў, у першую-ж чаргу падручнікаў па беларускай мове.

Ідучы на спатканьне неадкладнай патрэбе беларускае меншасьці, аўтар апрацаваў некалькі падручнікаў па беларускай мове, скарыстаўшы пры гэтым практыку раней друкаваных беларускіх выданьняў, гр. гр. А. Смоліч, Л. Гарэцкае-Чарняўшчанкі, А. Федасенкі, Я. Лёсіка, С. Некрашэвіча, І. Самковіча, І. Пратасевіча і інш. і прыстасаваўшы прапануемую кнігу як да варункаў жыцьця беларускае меншасьці ў Латвіі, гэтак і да навейшых вымаганьняў пэдагогікі.

Друк намечанае да выданьня сэры беларускіх падручнікаў пачынаецца з **першае пасьля лемантара кнігі для чытаньня.** Гэткі выбар зроблены таму, што лемантар у беларускім выданьню Беларускага Аддзелу ўжо надрукаваны ў 1922 годзе ў Вільні, і запасы яго яшчэ ёсьць на складзе, а першай чытанкі няма і ў ёй якраз адчуваецца найвастрэйшая патрэба.

Далейшымі выданьнямі намечаны:

„Беларуская Школа“ — **другая** пасьля лемантара чытанка разьлічаная на вучняў II клясы нашых аснаўных школ; „Беларуская Школа“ — чытанка для **трэцяе і чацьвёртае** клясы пачатковых школ; „Беларуская Школа“ — чытанка для **пятае і шостае** клясы пачатковых школ і для падрыхтоўчае клясы гімназіі. Выхадзіць гэтыя кніжкі будуць па меры грашовых магчымасьцяў у аўтара, а таксама і ў Беларускім Аддзелу, з дапамогай якога выходзе гэтая кніга.

Аўтар дужа просіць беларускіх настаўнікаў уважліва разглядзець кнігу і надаслаць свае зацемкі і ўвагі.

1 жніўня 1926 году
Рыга.



# I. ВОСЕНЬ.

## Усе рыхтуюцца да зімы.



### Птушкі ў вырай—дзеці ў школу.

Лета цэлае ганялі
Пастухі у поле.
Прыйшла восень. Птушкі ў вырай,
А мы, дзеці, — ў школу!

## Адлёт ластавак.

Нахмурылася неба. Веюць сьцюдзёныя ветры. Вясёлыя спрытныя ластаўкі лётаюць над зямлёю і ловяць мошак. Час праходзіць. На дварэ сьцюдзянее. Мошкі прападаюць. Няма чаго есьці ластавачкам. Вось яны і выбіраюцца ў дарогу. У палове верасьня іх ужо ня ўгледзіж.

## Дзеці і мошкі.

Пайшлі дзеці ў сад. Янка адвярнуў кару на ліпе. Пад карою было многа-многа рожных мошак і іхніх яек. Янка здзівіўся і закрычаў:

— Дзеці ідзіце сюды!

— Гэта мошкі схаваліся на зіму — адказаў старэйшы вучань. Дзеці на ўсіх дрэвах знайшлі многа мошак, павукоў і іхніх яек.

---

Якіх мошак знайшлі вы на экскурсіі? Куды яны захаваліся?





## Жураўлі.

Жаласныя крыкі
Льюцца над зямлёю
І чапаюць сэрца
Жалем і сьлязою.

Ў безгранічным небе
Роўненькім шнурочкам
Жураўлі у вырай
Цягнуць над лясочкам.

---

Намалюйце, як ляцяць жураўлі ў вырай.



## Вавёрка.

Вавёрка зьмяніла свой руды летні кажушок на белаваты, пушысты і цёплы. Сваё дуплё яна выслала мохам і лісточкамі. З раней восені яна нацягала ў сваё дуплё сухіх грыбоў, ягад, гарэхаў і шышак. Зімой ёй будзе і ўлежна і ўежна.

---

Намалюйце, раскажыце і напішыце, як вы ўлетку зьбіралі ягады і грыбы; як пачалі ў вашай вёсцы жаць жыта і вазіць снапы; як зьбіралі яблыкі і грушы; як дзёргалі лён і капалі бульбу.





## Малацьба.

Даўно зьвязьлі з поля жыта,  
Ў восеці сушылі,  
На таку, глінай набітым,  
Снапы насьцялілі.

„Та-та-та!“ — штодня нясецца  
З гумнішча вясёла.  
У матулі ўжо пячэцца  
Бондачка да столу.

---

Бондачкай — завецца маленькі хлеб для дзяцей, у якім запечана яйко, або кавалачак сала.

# Каляндар пагоды.

| Панядзе-лак | Аўторак | Серада | Чацьверг 1 | Пятніца 2 | Субота 3 | Нядзеля 4 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | | | | |

ЯСНА ХМАРНА ПЕРАМЕННА СЬНЕГ

### Сачыце за пагодай і зацісывайце.

Чарговы адмячае пагоду кожны дзень.

Калі пагода ясная, той дзень адмячаецца сінім алаўком і малюецца сонца.

Хмарная пагода адмячаецца шэрым алаўком.

Пераменная пагода адмячаецца Так: палова клеткі сінім алаўком, палова — шэрым.

Сьнег — адмячаецца зоркамі.

У канцы месяцу падлічым, колькі дзён было якой пагоды, і зробім дыаграмы.





### Гады.

Гады зьвярнуліся ў клубок над карэньнямі дрэў, прыціснуліся адзін да аднаго, каб было цяплей, і заснулі на зіму.

### Вецер.

Ой ты, вецер неспакойны
Дзьмеш ты бязустанку
Адну песьню нам сьпяваеш
Адну кажаш байку.



## Да зімы.

Усё карацей ды карацей робюцца дні. Лісты пажоўклі і апалі. Па небе поўзаюць цяжкія, цёмныя хмары. Сонца цэлымі днямі хаваецца. Набліжаецца зіма.

Бацька ўзяўся абсыпаць хату зямлёй, каб ня дула з падлогі. Пятрук пляце мату, каб закрыць на зіму вокны.

---

Як вы рыхтуецеся да зімы ў школе?
Як вы падрыхтаваліся да зімы ў хаце?



## У горадзе.

Настала восень. Скора ў школу, а ў Янкі няма ботаў. „Пачакай, Янка, вось у нядзелю паедзем у горад, павязём жыта, бульбу і мяса. Прададзём, і куплю табе новыя боты й шапку“.

Паехалі на рынак. Колькі там народу! Навязьлі яблык, бульбы, морквы, капусты. Падыходзяць да іх гарадзкія рабочыя і купляюць сабе на зіму гародніну. Янкаў бацька прадаў усё, што прывёз. Пайшлі купляць боты й шапку. Рады Янка вяртаўся дамоў. На галаве новая шапка, а на нагах боты.

---

Што дае гораду вёска? Што дае горад вёсцы?

Раскажыце, як ваш бацька езьдзіў у горад.

## Асеньні дождж.

Сыплюцца кроплі часта і дробна,
Ціха па стрэсе бубняць.
Смутак наводзіць шум іх жалобны,
Сьлёзы ў тэй песьні чуваць.



## Ж а б ы.

У лістападзе ноч — сьцюдзёная.
Зраньня ўсюды ценкі лёд.
У бузу жабы забіўшыся —
Сьпяць сабе на дне балот.

Ўсю зіму прасьпяць марозную,
Аж пакуль прыдзе вясна.
Расцьвітуць пукаткі лозныя —
Жабы ўзбудзюцца ад сна!



## Першы сьняжок.

Даўно цягнецца смутная, мокрая восень, аж цэлых тры месяцы: верасень, кастычнік і лістапад.

Учора было гразка, цёмна, сыра.

А сёньня...



На зямлі белая пушыстая коўдра.

Дахі, парканы, двор, поле — усё белае! Ноччу выпаў першы сьняжок.

Ад радасьці мы выбеглі на вуліцу, у сад, на двор. Мы сьмяяліся, крычалі, кідаліся пушыстымі сьнежкамі.

---

Напішыце, як вы сустрэлі першы сьняжок.



## Мядзьведзь.

Пуста стала ў поле і ў лесе.

Пазагналі стадак у хлеў.

Холад. Голад. Сум мядзьведзю.

Ўлёг у бярлогу і самлеў.





## Рыбы.

Рыбы апусьціліся на самае дно рэчкі, а некаторыя дык аж забіліся ў пясок.

## Скора зіма.

Скора ў поле забушуе,
Песьні сівер запяе,
Усе дарогі заруйнуе,
Гурбы сьнегу нанясе.
Ўсё зьмяшаецца ў тумане,
Ў белым попелу сьнягоў,
Сумна вецер плакаць стане
Над хацінкай беднякоў.

## У ШКОЛКУ.

Ярка на камінку
Смольны кор пылае,
Бацька на калодцы
Лапаць выплятае.

Латае халацік
На услоне матка, —
Ў школу заўтра пойдзе
Іх сынок Ігнатка.

Сын васьмігадовы
Корчык падкладае,
З бацькавай работы
Вочак не спушчае.

Сьветлая галоўка
Мысьлямі занята;
Многа ўсякіх думак
У вачох Ігната.

„Ну, Ігнат, глядзі, брат,
Не дурэй, вучыся,
Годзе жыць бяз дзела,
За буквар вазьміся.



Будзь старэнным, сынку,
Станеш чалавекам,
Будзеш ты чытаць нам,
Цёмным няумекам:

Што там ў кнігах пішуць,
Што мы ў сьвеце значым,
Бо мы самі цёмны,
Сьвету мы ня ўбачым.

Слухай, што настаўнік
Гаварыці будзе
Пра навуку, кнігі
І аб цёмны людзе...

А старэнным будзеш,
Да навукі здатны,
Я прадам кароўку
І кажух астатні:

Далей йдзі ў навуку,
Толькі, брат, вучыся...
Дык глядзі, сыночак,
Шчыранька вазьміся!

На гульню пустую
Плюнь, махні рукою,
Каб і я і маці
Цешылісь табою“.

На казаньне бацькі
Адказаў Ігнатка:
„Буду я вучыцца,
Як ты кажаш, татка!“

А як сын улёгся,
Думкі ўзварушыліся
І ўсю ноч Ігнасю
Школка, кнігі сьніліся.





# II. ЗІМА.

## У школе і ў хаце.




### У школу.

Клумак з кнігамі пад пахай;
Думак поўна галава —
Так у школу даўным шляхам
Сыпле сельская дзятва.

## У школу.

Сонейка зірнула ў мёрзлае вакно, іскрамі зазьяла дзіўна так яно.

Рана ўстаў з пасьцелькі хлопчык Васілёк, і ў вакне убачыў сьветленькі дзянёк.

Сёньня дзень вясёлы, зьяе яснатой: добра бегчы ў школу дзеткам грамадой.

За вакном, як срэбра, скрозь бялеўся сьнег. Хлопчык хутка ў школу з сябрамі пабег.

## Вершык для гульні.

Раз, два — булава;
Тры, чатыры — прычапілі;
Пяць, шэсьць — кашу есьць;
Сем, восем — сена косім;
Дзевяць, дзесяць — торбу вешаць.

---

У якія гульні ўмееце вы гуляць? Напішыце, якія вершыкі вы ведаеце для разьлічваньня пры гульнях.



## Трэба быць чыстым.

Чыстата — ахова цела чалавека ад заразы.

Мы адчыняем вокны, каб было чыстае паветра. Дыхаць пыльным паветрам шкодна.

Мы сьціраем пыл мокрай сьціркай, каб пыл не падымаўся ў паветра, скуль ён пападае нам у грудзі.

Мы нічога ня кідаем на падлогу.

У нас чыста.

Мы і ў хаце сочым, каб было чыста.

Мы чыста мыем рукі, твар і вушы мылам, каб не было каросты. Бо кароста ад бруду.

Мы заўсёды здаровыя і вясёлыя.

Нам лёгка вучыцца.

Той, хто ня мыецца і ў чыёй хаце брудна, заўсёды адчувае сябе кепска і часта хварэе.

---

Як ты мыесься?



## Мурза.

Гаворыць гусь Міколцы:
— Як-бы табе памыцца трошкі!
Гаворыць Міколцы качка:
— На цябе глядзець страшна!
А сьвіньня ад сьмеху давіцца:
— Мне Міколка падабаецца.

---

Хто ў вас самы большы мурза?



## Першы сьнег.

Толькі неба перастала
Плакаць, ліць сьлязінкі,—
Закружыліcь, залятаді
Першыя сьняжынкі.
Крыюць дрэвы, крыюць стрэхі,
На зямлю садзяцца,
Разгуляюцца пацехай,
Срэбрам мігацяцца.

## ЗІМА.

Белым сьнегам замятае
Вецер чорныя палі,
Слуп за слупам падымае
Над прасторамі зямлі.
Мягкі сьнег лятае пухам,
І канца яму няма,
І нясе сярдзітым духам,
Дзікім сіверам зіма.
Зачыняйце шчыльна хату,
Каб ня дзьмулі халады;
На вакно пляціце мату,
Каб ня клаў мароз сьляды.
Даставайце з вышак сані —
Гайда! — сьцежкі праціраць!
І па белым акіяне
Ўдоўж і поперак гуляць!

## Зімовая раніца.

Сямья ў Янкі ўстала яшчэ да сьвету. Матка запаліла ў печы і пачала рыхтаваць сьнеданьне. Бацька і Алесь — старэйшы брат—пайшлі карміць скаціну. Разбудзілі і Янку. Янка пачаў дапамагаць матцы. Сьнеданьне зварылася. Разбудзілі малодшую сястру Арынку і селі сьнедаць. Пасьнедалі і зноў за працу. Бацька і Алесь паехалі ў лес па дровы. Янка пабег у школу. Матка села за прасьніцу. Арынка пачала дапамагаць сукаць ніткі.

---

Раскажыце, як у вас праходзіць раніца.

Чым вы дапамагаеце дома?

Зрабеце маленькую прасьніцу.

## «Каток сам цягне».

Кажа матка да чатырохлетняе Ганулькі:

— Ганулька, на што-ж ты цягнеш катка за хвост, гэта-ж яму баліць!

— Я, мамачка, не цягну, а толькі трымаю за хвосьцік, а каток сам цягне.



## Наша кляса.

Наша кляса не вялікая. У ёй пяць вакон. З вакон бачна вёску. У нас дваццаць адна парта: аданаццаць у нашай групе і дзесяць у другой. Парты ёсьць і новыя і старыя.

На сьценках у нас вісяць: гэрб Латвіі, партрэт прэзыдэнта Чакстэ, партрэты латыскіх пісьменьнікаў Барона і Райніса, партрэты беларускіх паэтаў Янкі Купалы, Якуба Коласа і Багушэвіча ды многа нашых вучнёўскіх малюнкаў; яшчэ вісяць нашыя плакаты аб чыстаце, каляндар пагоды, сьпісак вучняў нашае і другое групы ды расьпісаньне заняткаў.

На вокнах стаяць скрыначкі з кветкамі, якія мы самі садзілі і самі даглядаем.

Нашы работы, сшыткі і кніжкі ляжаць у шафе. Перад намі вісіць дошка, а на палічцы ляжыць сьцірка і мел.

У куту стаіць скрынка, у якую кідаюць непатрэбную паперу.

У нашай клясе чыста, прыгожа і вясёла, бо мы нічога ня кідаем на падлогу, а калі прыходзім у школу, дык добра выціраем за дзьвярыма ногі.

---

Як выглядае ваша кляса?

## Беларускія школы ў Латвіі.



Адзін з клясовых пакояў у Дзяржаўнай Беларускай Гімназіі ў горадзе Дзьвінску.



Адзін з клясовых пакояў у беларускай аснаўной школе ў горадзе Рызе.





Зялёншчынская беларуская пачатковая школа ў Прыдруйшчыне, Дзьвінскага павету.

## Дзяжурныя.

Мы — Юрка, Марыся і Вера — гэты тыдзень дзяжурныя. Мы прыходзім у школу раней за ўсіх. Мы глядзім, ці чыста ў нас у клясе.

Перад пачаткам заняткаў, аглядаем у ўсіх дзяцей рукі, вушы і шыю — ці чыстыя. У каго брудныя, гаворым, каб памыўся.

На пераменках мы сочым, каб была адчынена фортка. Адчыняць фортку мы не забываем, бо каля вакна вісіць плякат: „Адчыняйце часьцей вокны“.

---

Што робюць у вас дзяжурныя?

## Выціранкі для пёраў.

Выражце з якой хочаце матэрыі дзесяць лісткоў па такой форме:




Лісткі зложыце ў дзьве стопкі, абшыйце, як пятлічкі. У вас будзе пяць лісткоў у дзьве стопкі. Сшыйце іх разам у тым мейсцу, дзе паказан крыжык. Выражце два невялічкія кругі і прышыйце іх пасярэдзіне сшытых лісткоў з абодвух бакоў. Вось і ўсё. Выціранкамі выцірайце пёры пасьля пісаньня. Яны ня будуць псавацца.



## Мяцеліца.

Сівыя хмары неспакойна забегалі па небу. Падняўся вецер, густа і працяжна зашумеў стары лес на ўсе галасы. А хмары бягуць, сьцелюцца ніжэй, гладзей, раўней і аблягаюць усё неба. Пасыпаўся сьнег мільёнамі камочкаў дробнага, мягкага пуху. Залёталі, закружыліся яны халодным пылам. А вецер крапчэе, ўзьдзірае сьнег зьнізу ў поле, падыймае яго ўгару, круціць стаўбамі, і белы віхор сьнежнага пылу далёка імчыцца па полю. Неба мяшаецца з зямлёю. Усюды, куды ня глянь—бель і бель, і ня можа вока абняць гэтую белую сьцяну. А як заліваецца вецер у полі! Сьвішча ён у платох дзікім зьвером, зьдзірае саламяныя стрэхі, налятае на адзінокія дрэвы, варочае кожную іх галінку, кожны сучок. Борзда насыпаюцца белыя курганы, гіне дарога, усё зьліваецца ў адну белую пялёнку.

Страх нападае на падарожніка, каторага захопіць завея ў дарозе.

---

Як вы ў сябе адмячаеце пагоду?

## У школу па чарзе.

У аднэй вёсцы жылі два браты-сіроткі. Аднаму з іх было дзесяць год, а другому — аданаццаць. Каб зарабіць сабе кавалак хлеба, яны рабілі скрыначкі да сярнічак. Абадвум вельмі хацелася вучыцца чытаць. У будні дзень ня было калі дзецям хадзіць у школу: яны працавалі дома, а ў нядзелю яны маглі вучыцца. Вось ім пашчасьціла: узімку за тры вярсты ад вёскі адчынілі школу, у каторай вучылі па нядзелях. Але вось бяда: па сьмерці бацькі ў іх у абадвух астаўся толькі адзін кажушок, а зіма была сьцюдзёная, з мяцеліцамі. Нельга было ім абадвум хадзіць у школу.

Дык вось што яны прыдумалі. Яны апраналі кажушок па чарзе: як адзін брат ішоў у школу, другі заставаўся ў хаце. Адноўчы вучыцель спытаўся малодшага хлопчыка: „Дзе-ж твой брат? Чаму ён не прыйшоў разам з табою?“

Хлопчык адказаў: „У нас толькі адзін кажушок, і мы апранаем яго па чарзе; сягодня быў мой чарод ісьці ў школу. Як я вярнуся да хаты, я раскажу брату ўсё, што я тут даведаўся. Гэта добра і для мяне, бо я лепей навучуся лекцыі, як разказваю яе брату. У другую нядзелю брат пойдзе ў школу і разкажа мне лекцыю“.



## Мяцеліца.

Ноч глухая, цемнь, завея,
Не відаць і сьвету;
Толькі сьнег адзін бялее,
Ў іней лес адзеты.

Ні праезду, ні праходу,
Белы віхар ў полі,
Як-бы тут дарожак зроду
Ня было ніколі.

Сьвішча, плача і галосіць
Завіруха злая;
Хаты, гумны, ўсё заносіць,
Зьнегам задзімае.



## У зімку.

Маці з калаўротам
Села ля вакна;
Хоча ставіць кросны
Пад вясну яна.

Завіруха плача,
Грукае ў вакно,
І грахоча пралка
З ёю за адно.

Каля маткі дзеткі
Селі ўсе ў радок.
Ім прытульна, добра —
Цёплы іх куток.





## Доля сірацiны.

Цяжка сіраціне
Адзінокай жыць,
Доля - весялуха
Зьнікуль не бяжыць.

За хатай і ў хаце
Церпіць сірата:
То мароз марозіць,
То заліць слата.

Ад брамы да брамы
Йдзе, зьбірае хлеб,
Ручачку працьгне —
Кожны глух і сьлеп.

## Хаўрусам.

Надумаліся дзеці, каб палуднаваць у школе ўсім разам, хаўрусам. Згаварыліся. Усякі прынёс з дому: хто бульбы, хто круп, гароху. І пачалі сабе варыць адну страву на ўсіх.

Толькі Сымонка Васілёў нічога не прынёс. Дзе-ж там: у яго і ў хаце няма чаго есьці. Уперад, бывала, неяк пажывіцца каля таварышоў. А цяпер, як паселі ўсе дзеці, такія вясёлыя ды радыя, каля вялізнае міскі, Сымонка адыйшоў у куток. Успомніў пра яго Пётра. „Палавіну сваеársткі я зьеў, а другую няхай зьесьць Сымонка“. І аддаў яму сваю лыжку.

На другі дзень самы старэйшы вучань кажа: „Чаму гэта адзін Пётра мае харчаваць Сымонку? Па-мойму, хай Сымон есьць проста з міскі разам з усімі. Усім будзе даволі“. Так усе і згадзіліся. Давялося толькі Сымонку сабе прынесьці лыжку.

---

Ці дапамагаеце вы сваім таварышам?



# III. ЖЫЦЬЦЕ НАУКОЛА НАС.

## Дзеці.

Ішоў я раз па лесу і сустрэў там трое дзяцей. Дзьве маленькія дзяўчынкі зьбіралі гальлё і вязалі яго. Пад дрэвам сядзеў худзенькі хлопчык і еў скарынку хлеба.

Я спытаўся ў дзяўчатак:

— Што вы тут робіце?

Большая дзяўчынка сказала:

— А мы тут гальлё зьбіраем.

— А хлапец — гэта брат ваш?

— Не, чужы.

— Ен сірата,—дадала малодшая дзяўчынка, — матка ў яго памёрла, бацька бедны, і нічога няма. Вось мы шкадуем яго, прыносім яму чаго-небудзь зьесьці і памагаем яму зьбіраць гальлё.

Як хлопчык зьеў хлеб, дзяўчынкі памаглі яму падняць вязанку гальля і пайшлі з ім разам у вёску.

— Трэба яго прапусьціць дамоў, каб яго вясковыя хлопцы ня скрыўдзілі, — сказала старэйшая дзяўчынка.

## Школа.

Прыйшла Зося са школы. Пытаецца ў яе маленькі браток Васілька: „Што вы робіце ў школе?“ Зося адказала: „Мы вучымся чытаць, пісаць і лічыць“. Пытаецца Васілька: „Нашто вы вучыцеся?“ Адказала Зося: „Натое, каб быць разумнымі і добрымі“.

## Кароткая гутарка.

Неяк сьвятым днём пякла маці аладкі, а сынок Іванка круціўся ўсё каля яе, дый кажа:

— Чаму ты, мамка, са мною не гаворыш?

— Бачыш-жа, што няма часу, адказуе маці: — дый што-ж я там буду табе гаварыць?

— Ну хоць што... вось сказалі-б:—на табе, Іванка, аладачку!





## Сьнежны дзед.

— А ведаеш што, Жучка-Зьлючка, — казаў Янка да свайго таварыша сабачкі, — хадзём у сад сьнежнага дзеда ляпіць.

— Яў, яў! — узрадаваўся Жучка-Зьлючка і радасна завіляў хвосьцікам.

Вылепіў Янка дзеда са сьнегу. Заместа вачэй — вугальчыкі ўсадзіў яму ў твар пад лабаціну; заместа барады — кудзелі прычапіў. Даў яму кій у рукі, і дзед выйшаў на славу.

Абмацаваў Янка дзеда з усіх бакоў— добра.

Абнюхаў дзеда сабачка з галавы да ног — ляпей ня трэба. Міргнуў Янка да Жучкі, Жучка да Янкі і разам зарагаталі: гі - га - го!

Гі - га - го! Панеслося ім у адказ з усіх куткоў.

Янка і Жучка бегалі і скакалі навокал дзеда аж да самага вечара.



**Зімовыя забавы.**

Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку малому —
Кліча яго рэчка,
Цягнуць санкі з дому.
— Мамачка, галубка!...
Просіць ён так міла:
— Можа-б ты на рэчку
Пагуляць пусьціла?



Я ня буду доўга —
Зараз-жа вярнуся;
Трошачкі на рэчцы
Ў санках паважуся!
— Ну, ідзі пабегай,
Толькі апраніся,
Ды глядзі ў балонку,
Сынку, не ўваліся.

**Як дзеці зрабілі санкі.**

— Юрка, хадзём коўзацца! — клічуць дзеці Юрку.

— У мяне санак няма.

— А мы самі зрабілі. Паглядзі! Мы ўзялі дзьве дошкі ад паламанай бочкі, палажылі іх побач так, каб канцы загібаліся ўгару; потым зьверху прыбілі роўную дошку; прывязалі вяроўку і ўсё. На іх добра каўзацца. Давай табе паможам зрабіць!

Дзеці пабеглі да дому. Знайшлі ўсё патрэбнае. Праз гадзіну санкі былі гатовы.

Рады Юрка пабег на гару.

Ах, як добра было каўзацца на новых санках!

## Ня еж сьнегу.

Вясёла было Янку. Цэлая гурба дзяцей была на гары. Сьпярша рабілі бабу, потым коўзаліся і гулялі ў сьнежкі. Янка вельмі разгарачыўся. Яму надта захацелася піць. Янка пачаў есьці сьнег.



Уночы Янку зрабілася дрэнна. Усё нутро яго паліла. Усё хацелася піць.

Раніцаю Янка не пайшоў у школу. Ня мог устаць. У яго зрабілася запаленьне лёгкіх. Янкава маці плакала. А Янку адвязьлі ў бальніцу.

**Ня яж сьнегу.**
**Добра апранайся.**
**Ня выскаківай босы.**



## Дзяцінныя акуляры.



Бачыў Паўлюк, што дзед, як садзіцца чытаць кніжку, заўсёды надзявае акуляры.

Просіць Паўлючок у дзеда:

„Купі мне, дзедка, акуляры, я таксама хачу кніжкі чытаць“.




— „Добра, кажа дзед, куплю табе акуляры, толькі ведама, дзяцінныя“.

І купіў Паўлючку кніжку.

## Стэфчына казка.

Стэфка кажа сваёй маме.
— Мама, любіш ты слухаць казкі?
— Люблю, дзетачка.
— Можа хочаш, каб я табе сказала казачку?
— Скажы, я вельмі хачу паслухаць.
— А ці спадабаецца яна табе?
— Напэўна спадабаецца.
— Яна вельмі кароценькая.
— Ды ты кажы ўжо...

— Была сабе раз паліваная місачка і стаяла яна на стале, а я… зачапіла неяк, дык яна ўзяла і пабілася.

## Нашая гаспадарка.

Маем дзьве кароўкі: адна рыжая ў белыя латы; мы яе называем «Красулей». Другая, палавенькая — «Зязюлька». Красулька меншая, а больш малака дае; татка кажа, што лепшы завод. А я люблю Зязюльку, бо ня так на шкоду ласа. Есьць яшчэ тры авечкі з дзьвюма блізьняткамі, конік, каштанчык і гэта — ўся жывая гаспадарка. Праўда, былі парсючок і дзьве курыцы, але курэй мамка прадала, а парсючок здох перад Сёмухаю.

## Першая кніжка.

Нешта ня доўга пахадзіў Андрэйка ў школу, а ўжо навучыўся чытаць і пісаць. Прыходзіць Андрэйка са школы, прыносіць кніжкі. Сядзе Андрэйка ўвечары за стол з кніжкаю, а бацька, маці, браты меншыя — каля яго. Андрэйка чытае, а ўсе слухаюць. Бацькам уцеха паслухаць сынка, а Андрэйка сам так зсябраваўся з кніжкаю, што ні на мінуту яе ня кідае. Нават сьпіць з кніжкаю.



## Як Раманка любіў сваю мамку.

Бег Раманка цераз вуліцу. Ехалі па вуліцы нейкія людзі. Заглядзіўся Раманка ды трапіў пад кола; зламала яму нагу. Прынесьлі беднага хлопчыка ў хату. Маці яго была хворая; як пачула, што ён застагнаў, схапілася з пасьцелі ды самлела. Раманка раптам сьціх, сьціснуў зубы і дакуль фэльчар направуляў ды перавязываў яму нагу, ані разу не застагнаў.

— «Хіба табе не баліць?» — Спытаў яго нарэшце фэльчар, дзівуючыся. — «Ой, як баліць, — ціханька адказаў хлапец, але я не хачу, каб мамка пра гэта ведала, ёй будзе надта цяжка...

## Просьба кніжкі.

— Ці ведаеце вы, што сказала-б вам кніжка, каб яна ўмела гаварыць?

Яна-б сказала.

1. Абыходзьцеся са мною ашчадна.

2. Не перагібайце мяне папалам. Гэта псуе мне аправу.

3. Ня кідайце мяне куды папала, іначай я скора раскудлачуся і парвуся.

4. Не кладзіце ў мяне ручак, алаўкоў і нажоў. Гэта вельмі псуе мяне.

5. Не рабеце на мне ніякіх подпісаў і малюнкаў.

6. Бярэце мяне чыстымі рукамі.

7. Помніце, што я хачу быць чыстай і цэлай.



## Наш досьлед.

Мы паставілі бутэльку з вадою на мароз. Бутэльку мы закаркавалі. На другі дзень, глядзім, — корак выскачыў і навокал шыйкі бутэлькі лёд, а бутэлька трэснула. Лёд ня зьмесьціўся ў бутэльцы. (Дагадайся, чаму ня зьмесьціўся?)

А ў бутэльцы былі прыгожыя, прыгожыя ўзоры! Мы пачыталі праз кавалак лёду літары — бачна. Потым кінулі лёд у міску з вадою. А лёд ня тоне. (Чаму так?)



## Хвойка.

Прыйшла вясна. Усе дрэвы зазелянелі. Толькі хвойка была як заўсёды маркотная. Яе адзеньне паміж іншых дрэў, такіх зялёненькіх, ня кідалася ў вочы. Але вось наступіла зіма. Абсыпаліся дрэвы і стаяць голыя. А хвойка ад холаду толькі зяляней стала. І так прыемна глядзець на яе зялёненькую сярод белага сьнегу.

## Коўдрачка.

— На што гэта, мама, сьнег узімку йдзе?

— А з яго прырода коўдрачку тчэ.

— Коўдрачку гаворыш, хто-ж ў ёй будзе спаць?

— Тыя, што ў зямельцы мусяць зімаваць: насеньне маленькае, зярняткі збажынак, карэньчыкі красак, зёлак і травінак.

---

Якое значэньне мае сьнег для жыта?

Ці ведаеце вы, як ратаваць замёрзлага?

## Лес у зімку.

### I.

Зіма. Зямля ўся завалена сьнегам. Лес стаіць нібы мёртвы. Але гэта толькі здаецца. Прыгледзься лепей: вось галінка закалыхалася, кусьцік заварушыўся, вось нешта мільганула на сьнезе. Кусьцік заварушыўся, а з-пад яго — заяц. Увесь белы, толькі на вушках чорныя плямы.



Раптам вецер на паляне ўзьняў сьнег — і вылезьлі белыя курапаткі: ходзяць па паляне, ягады пад сьнегам шукаюць.





Падзяўбуць і зноў у сьнег.

Ледзь толькі адліга — выпаўзаюць бязкрылыя камарыкі - сьнежніцы. Пабегаюць басанож па сьнезе.

Пабегаюць, паскочуць і назад пад кару, пад мох.

### II.

А на дрэвах такое ўбачыш — рот разявіш ад зьдзіўленьня. На самай верхавінцы на галінках сядзяць грыбы сушоныя. Сініцы іх дзяўбуць і шмат усялякіх іншых птушак. А пакажацца ваверка — ураз усе разляцяцца ў рожныя бакі.

Гэта яе гаспадарка, ваверкіна. Яна яшчэ з восені зьбірала грыбы на зямлі і цягала іх на дрэва. Насушыла на галодны час. А цяперака вось і карыстаецца.

А ў каго запасаў няма, — дрэнна зараз жыць таму. Добра, калі дармавая страўня адчыніцца дзе-небудзь, а то хоць лажыся, ды памірай.

## III.

Дармавая страўня там, дзе падла ляжыць. Але і тут чарга. Хто памацней, той першы і папалуднуе, а слабейшыя ў хвост становяцца чакаць.

Вун, варона знайшла на ўзьлесьсі забітую касулю.

Карр! Карр! гукнула сваіх сясьцёр— і пачала ўся сямейка вячэраць.





А ўжо вечар — месяц.

З лесу нехта, як закугакае: Уґу!

Вароны — хто куды. А пугач на падлу.

Толькі ўзяўся за полудзень — ліса йдзе.

Пугач на дрэвы — ліса на падлу.



Не пасьпела наесьціся, прыйшоў воўк.

Ліса ў кусты — воўк на падлу.



Тутака ўжо ніхто не падыходзь! Папалуднаваў воўк, пайшоў — вярнулася ліса.

Папалуднавала ліса — пугач прыляцеў.

Папалуднаваў пугач — вароны зьляцеліся. Але к гэтаму часу — была ўжо раніца, толькі аб'едкі засталіся.

Кепская ў лесе чарга!



## Як ваўкі сьвіньню нашую ўхапілі.

Мы жылі пры лесе. У лесе было шмат ваўкоў. Бывала, як пачнуць увечары выць, дык аж страшна слухаць. Раз неяк узімку глядзеў я ў вакно. Па панадворку хадзіла сьвіньня. Убачыў я, што праз вароты ўбеглі два сабакі, узялі сьвіньню за вушы і цягнуць яе з двара за вароты. Сьвіньня крычыць і ня хоча ісьці, а сабакі валакуць яе за вушы, ды яшчэ ззаду хвастамі б'юць, каб ішла. Я крычу: — „Мама! чужыя сабакі нашую сьвіньню вядуць“.

Мама прыбегла, глянула ў вакно і кажа: — „Гэта-ж не сабакі, а ваўкі! Прапала нашая сьвіньня!“

Мама выскачыла з хаты і пачала цкаваць ваўкоў нашымі сабакамі. А сабакі спалохаліся ваўкоў, схаваліся пад сьвіран, дый маўчаць. І нікога на той час ня было дома, толькі мама ды я. Ня было каму сьвіньню адбараніць, дык ваўкі і павялі яе ў лес.

---

Ці бачылі вы ваўкоў?
Якая ад іх шкода?

## Вераб'і.

Была халодная зіма. Ня было чаго вераб'ём есьці. Паляцелі вераб'і на гумнішча. Знайшлі там каласок і пачалі за яго біцца. Доўга яны біліся, аж пакуль певень ня ўгледзіў каласок, ухапіў яго, дый панёс.

## Назіраньні за вераб'ямі.

1. Які надворны выгляд вераб'я? Малы ён ці вялікі?
2. Дзе ты больш за ўсё бачыў вераб'ёў? (на двару, на вуліцы, каля гумна).
3. Чым кормяцца ўзімку вераб'і? А ўлетку?
4. Як крычаць вераб'і?
5. Што робяць вераб'і, калі спалохаюцца?
6. Як вераб'і сварацца і б'юцца?
7. Дзе вераб'і начуюць?
8. Дзе вераб'і ўюць гнёзды?
9. Якая карысьць ад вераб'ёў? А можа ёсьць шкода, якая?

---

Свае назіраньні запішыце ў сшытках і нарысуйце вераб'я.

Вераб'ёў можна вырэзваць з паперы.



## Верабей (гульня).

Дзеці становяцца ў кола. Пасярод пушчаюць аднаго — вераб'я. Бяруцца за рукі, ходзяць і пяюць:

„Як пайшоў верабей, ды па сьметнічку.
Сабіраў, дабіраў усю сямеечку.
Мала нас, мала нас на печы, на хлебе!“

Тут верабей называе, каго ён сабе выбірае. Дзеці пяюць далей.

„Яшчэ мне, яшчэ мне Алёначку трэба“.

Ізноў пяюць спачатку, пакуль верабей не зьбярэ да сябе большую частку дзяцей. Тады тыя, што засталіся ня выбранымі, круцяцца ў другі бок і пяюць:

„Як пайшоў верабей, ды па сьметнічку,
Раськідаў, разьбіваў усю сямеечку.
Многа нас, многа нас на печы, на хлебе“.

Тут таксама верабей называе таго з дзяцей, каго хоча аддаць, а дзеці пяюць:
„Ужо мне, ужо мне Ганулькі ня трэба“.

Так ізноў пяюць далей, пакуль верабей не аддасьць усіх, каго ён сабе выбраў. Тады, каб пачаць гульню, выбіраюць новага вераб'я.

## Разумная варона.

Захацелася вароне піць. Знайшла яна недзе пад хлевам гладыш з вадою, але вада ў ім была толькі на самым доне, і варона не магла яе дастаць. Тады яна надумалася кідаць у гладыш каменьчыкі. Хутка яна гэтулькі каменьчыкаў накідала, што вада паднялася ўгару, і вароне можна было напіцца.

---

ПЫТАНЬНІ: Як выглядае варона?

Дзе варона жыве?

Якую страву яна ўжывае?

Ці адлятае варона ў вырай?

Нарысуйце варону.

Якія яшчэ птушкі застаюцца ў нас на зіму?

Выражце нашых зімовых птушак і наклейце на паперу.





## Маленькая работніца.

Была халодная зіма. Бедныя людзі хадзілі ў лес зьбіраць ламаччо, каб ацяпляць хату. Маці маленькай Настулькі была хворая і не магла выходзіць з хаты. Бацькі ў Настулькі ня было. Але, пакуль маці была хворай, Настулька не сядзела, злажыўшы рукі. Яна кожную раніцу хадзіла ў лес і прыносіла дамоў крыху ламачча. Гэтак, дзякуючы малой Настульцы, было цёпла ў беднай хаце.

---

Як вы адносіцеся да сваіх таварышоў-дзяўчатак?

Як вы правялі сьвята работніцы?

Зьбярыце свае малюнкі і запісы ў куток працоўніцы.

## Стралец і заяц.

Быў адзін стралец. Прыйшоў ён у лес, глядзіць — заяц на кусьце сьпіць. Дастаў стралец з кішані табакерку, дый трасець на руку табаку, а сам думае:

„Што я з гэтым зайцам зраблю? Вазьму я яго, заб‘ю, скурку прадам. То не малыя грошы будуць. Што я за тыя грошы куплю? Куплю я авечку і барана. Тая авечка акоціць ягнятак. Ягняткі павырастаюць, я іх тады прадам, — вялікія грошы вазьму.

Буду я тады вялікім панам. Прыйдзе да мяне які бедны чалавек грошы пазычаць, скажа: „Паночку, зрабі мне ласку“. А я як крыкну на яго: „вон пайшоў!“ — дый запраўды крыкнуў стралец, а заяц прачнхуўся дый уцёк.

---

ПРЫКАЗКІ: З незабітага ліса кажуха ня шыюць. Пасьпех людзём на сьмех. Не кажы „гоп!“ не пераскочыўшы.





## Старац узімку.

Сьнег замятае дарогу,
Бура сярдзіта гудзе,
Старац — калека убогі—
Вуліцай вёскі ідзе.

Хоць не пад сілу старому
Гэткай парой жабраваць,—
Ходзіць бядак: пасваёму
Мусіць свой хлеб здабываць.



## Шавец.

Я шавец - маладзец.
Знаю дзела сваё,
Слухаць мусяць мяне
Капылы і скур'ё.

Пры варстаце маім
Дружна праца ідзе,
Жонка дратву прадзе,
Сын мой суча яе.

І багат-бы я быў,
Хоць ня бедзен і так,
Каб лапцей не насіў
Наш мужык - небарак.



## Шавец.

Шавец здымаець з нагі мерку і па гэтай мерцы ён робіць з дрэва капыл. Пасьля бярэць кавалак скуры і вострым нажом кроіць з яе перадок і халяву, мочыць іх у вадзе і прыбіваець цьвячкамі да капыла.

Калі скура высахнець на капыле, яна прыймае форму бота, тады шавец пачынае прышываць да яго падашву. Падашву кроіць шавец з таўстой бычыннай скуры. Шыець шавец не іголкай, а шылам; праколіць шылам дзірачку і працягне ў яе дратву. Дратва робіцца з крэпкіх, прасмоленых нітак і, каб лягчэй было прасуваць дратву, да яе прывязываюць сьвінную шчаціну. Прышыўшы падашву, шавец дарабляе да бота абсац і ўбівае у яго цьвячкі; пасьля чарніць боты, чысьціць іх і ўжо боты можа насіць той, хто іх заказаў шаўцу.




Прылады шаўца.

## **Шавец** (гульня).

У гэтай гульні некалькі дзяцей становяцца ў рад адзін за адным. Самы задні стаіць з ручнікам у руках і пытаецца: „А дзе шаўцы?“ — „На тым канцы!“ — кажуць яму.

Той бяжыць у другі канец (наперад),



а самы першы адтуль уцякае. Калі самы апошні ўдарыць уцекача ручнікам, пакуль той бяжыць на другі канец раду, дык уцекач становіцца з ручнікам, а каторы быў сьпераду — становіцца ў рад.

Калі самы апошні не злавіў уцекача, ён ізноў становіцца з самага заду і пачынае гульню.

---

ПЫТАНЬНІ: Ці ёсьць у вашай мяйсовасьці шавец?

Якая ў яго майстэрня?

Якія прылады ў шаўца? Нарысуйце іх.

Колькі чалавек працуе ў майстэрні?

Колькі рэчаў выробляе шавец у месяц?

Колькі ён зарабляе?

Зрабеце маленькі капыл. Выражце падошвы, заднік з кардону.

---

ЗАГАДКІ: 1. У каго на нагах дзьве скуры?

1. Сам на нагам, а хаджу на галаве; сам у ботах, а хаджу басанож.

РАЗГАДКІ: 1. У таго, хто ў ботах. 2. Цьвек.



## Песьня каваля.

Мой горан пылае,
І іскры ляцяць;
Я мех уздуваю
І буду кавацць...

Працую, гарцую,
Як моцы стае,
Гартую, муштрую
Жалежа мае...

У кузьні ад раньня да ночы стаю
І молатам лепшую долю кую...

І гнецца парою
Жалеза і сталь,
Як возьме рукою
Здаровай каваль...



Скую, вось, касу я,
Загну, закручу.
І выйду у поле, —
Нядолю скашу...

У кузьні ад раньня да ночы стаю
І молатам лепшую долю кую.

## Добры майстра.

Здумаў адзін чалавек зрабіцца кавалём. Хоць сам ён кавацць ня ўмеў, работнікаў да сябе не захацеў браць, падумаўшы: — вось дзіва кавацць. Няма чаго галаву над гэтым ламацць. Прыладзіў кузьню і чакае работы.

Прыходзіць да яго селянін, дае яму кавалак зялеза і загадвае кавалю выкавацць нарогі да сахі.

Узяўся каваль за работу; каваў, каваў, пасьля пакруціў галавой і кажа: —нарогаў, братка, ня будзе! —А што-ж ты зробіш? — Тапор табе выкую. — Добра і тапор, рэч у гаспадарцы патрэбная.

Каваў, каваў каваль, дый кажа:—Тапара, браток, ня выйдзе. — Дык што-ж, майстра, выйдзе? — Слаўны нож будзе. — Роб нож, ён таксама патрэбен.

Ізноў узяўся каваль за работу; каваў, каваў, пасьля зварочваецца да селяніна: — Ведаеш, браток, нажа таксама ня будзе. — Ня будзе? Дык што-ж ты змайструеш? — Шыла табе, браток, змайструю! — Рабі шыла!

Каваў, каваў каваль, наастатку кажа: — І шыла, браток, ня выйдзе. — Дык што-ж у цябе выйдзе? — Пшык, — кажа. — Які пшык? — Зьдзівіўся селянін. — А вось глядзі ды слухай.

Узяў каваль той кавалачак зялеза, каторы ў яго застаўся ад зялезнае паласы, напаліў яго на агні і кінуў у ваду, —вада і засіпела. Цяпер будзеш ведаць, які гэта пшык? — кажа каваль.

На гэтым і скончыў каваль сваю кавальскую працу.

## Селянін.

Селянін вясной і ўлетку працуе ў полі, здабываючы хлеб. Увосень селянін надвозе зерне на млын і меле муку.



Частку зерня адвозіць селянін увосень і ўзімку ў горад. Хлеб купляюць рабочыя. Рабочым бяз хлеба не пражыць.

Селянін купляе ў рабочых боты, плугі і паркаль.

Селянін патрэбен рабочаму, а рабочы селяніну.

---

Пералічыце і раскажыце: што вёска дае гораду і што горад дае вёсцы.

Ці можа жыць горад бяз вёскі?

А вёска бяз гораду?

Што робюць сяляне, у якіх мала, або зусім няма зямлі?

## Наш Гняды.

Нашаму Гнядому ўжо тры гады. Бацька сказаў, што пара яго да працы прывучаць. Яшчэ раней прывязвалі Гнядога побач з яго маткай Рыжай. А цяпер запраглі ў лёгкую запражку і паставілі побач з маткай. Спачатку Гняды не даваўся запрагацца, але скора прывык і навучыўся добра хадзіць у запражцы. По-

тым Гнядога і аднаго запраглі ў лёгкія санкі і пусьцілі ў сьлед за Рыжай. Нічога, добра пайшоў Гняды па роўнай дарозе — лёгка, вясёла і шпарка.

Летам на Гнядым вазілі гной, скарадзілі поле, сеялі бульбу. Скора прывучыўся Гняды да працы.

І разумны-ж быў наш Гняды!

Паехалі мы раз з бацькам на Гнядым у горад. Быў ужо вечар, калі мы вярталіся да хаты. Раптам паднялася завея. У полі зрабілася зусім цёмна, толькі сьнег і сьнег. Мы ня ведалі куды ехаць. Бацька кінуў лейцы і сказаў:

„Ну, Гняды, вывазі, мілы!“

Гняды пастаяў крыху, падумаў, падняў галаву, панюхаў навокал. Потым ціха пайшоў па цаліне і прывёз нас проста да хаты.

## Ці ведаеш ты свайго каня?

1. Якой масьці ваш конь?
2. Як у яго пабудаваны вушы?
3. Якія ў яго капыты?



4. Навошта каня падкоўваюць? Ці баліць каню, калі яго падкоўваюць?
5. Як конь сьпіць?
6. Чым вы корміце свайго каня? Колькі даецё ежы за адзін раз? Калі поіце? Ці чысьціце каня? Як вы чысьціце?
7. Якую працу робіце на сваім каню?
8. Калі і навошта зьмяняецца поўсьць у каня?
9. Колькі коняў у вашай вёсцы?

## Гаспадарны хлапец.

— Паіў ты каня?
— Паіў.
— Чаму-ж у яго морда сухая?
— А бо вады не дастаў.

---

Які дагляд патрэбен за канём? Калі конь успацеў, ці можна яго паіць?

ПРЫКАЗКІ: 1) Не гані каня дубцом, а гані аўсом. 2) Скаціна бязмоўна, ня скажа, што піць хоча.

## Карова.

Карова адна з найболей карысных жывёлін. Сама па сабе карова — жывёла лагодная, разумная і мілая. Корміцца карова ўлетку на пашы травою, а ўзімку сенам, саломай і памыямі.

Карова любіць чыстату. Раз у тыдзень добры гаспадар мые і чэша карову. Перад даеньнем трэба кожны раз абмываць вымя.

## Хлеў на зіму трэба рабіць цёплы.

Карова дае чалавеку малако. З малака робяць сьмятану, сыр і масла. З лою робяць сьвечкі і мыла. З рог робяць грабяні і ручкі для нажоў. Мільёны людзей кормяцца кароўім мясам. З скуры робяць боты. З капытоў вараць сталярскі клей.

---

ЗАДАНЬНІ: Колькі кварт малака дае ваша карова?

Колькі мусіць даваць добрая карова?

Колькі ежы даецё вашай карове на дзень?

Колькі кароў і цялят у вашай вёсцы?

Нарысуй тваю карову.

Якую карысьць прыносіць карова?



## Гладышы (гульня).

Дзеці выбіраюць з паміж сябе ката і матку. Пасьля ўсе, апрача ката і маткі, садзяцца на зямлю, а матка кажа кату: „Глядзі-ж, каток, я пайду ў поле да работы, а ты пільнуй маіх гарлачыкаў, каб іх ніхто не абярнуў“.

Матка адыходзіць у бок, а кот абходзіць дзяцей і кажа на аднаго: „Гэта сьмятанка!“ На другога: „Гэта сываратка!“ На трэцяга: „Гэта тваражок!“ На чацьвёртага: „Гэта сырок!“ і гэтак далей, і пачынае пераварачваць. У гэты час прыходзіць матка. Яна бачыць пераварочаныя гладышы і ловіць ката, а злавіўшы, лае: „А не чапай сьмятаны, ня бі гладышоў“. Кот стараецца вырвацца і ўцячы.

Далей гульня йдзе, як спачатку.



## Сьвіньня і яе дзеці.

Ідзе сьвіньня па дварэ, а за ёю дзеткі — парсючкі беленькія. Многа іх, яна і зьлічыць іх ня можа. Сама тоўстая; на хрыбце шчаціна; вушы, як анучкі; нос пятачком; вочкі маленькія; хвост кручком. Ідзе і навучае сваіх дзетак: „Цяперака я вас малачком сваім паю, а падрасьцеце —рыйце зямлю лычам. Усё, што знойдзеце — ежце: мыш, дык мыш; траву, дык траву; усё — мяса, хлеб, муку, жалуды, — усё ежце. Кожны дзень залазьце ў гразь і паболей ляжэце там. Будзеце ісьці міма вугла — пачашэцеся“.

Слухаюць парсючкі сваю матку і ўсё запамінаюць.



## Чаму гэта так?

Ангельская чорная сьвіньня аднаго году важыць 10 пудоў, а наша сьвіньня такога-ж узросту важыць 2 пуды.

На колькі пудоў ангельская сьвіньня важыць больш за нашую?

## Сьвіначка.

— Сьвіначка, дзе была?

— У суседа на дварэ.

Ну, што там?

— Кепска! Ніякага парадку: двор чыста вымецен, усюды чыстата. Нельга ні ў гразі пакапацца, ні ў лужы паваляцца.

---

ПЫТАНЬНІ: Якую карысьць прыносіць сьвіньня?

## Разумная сьвіньня.

Нeяк дадумалася сьвіньня, што яблыкі растуць на яблыне і што іх адтуль трэба трасьці; мусіць бачыла, што людзі гэта рабілі. Вось-жа прыходзіць яна раз

у садок, падбегла да яблынкі і ну яе трасьці. Што яна патрасе,—яблычкі пападаюць, яна іх паесьць і ізноў трасе. Яблынка гэта была маладая і яблыкаў на ёй было трошкі. Як трэці раз патрасла сьвіньня яе, дык ужо нічога і не звалілася. Тады сьвіньня яшчэ разоў некалькі патрасла яблынку, прыслухаючыся, ці ня падаюць яблыкі. Але яблыкі больш ня падалі і сьвіньня пайшла сабе далей.

## Ярачка.

Была ў нас авечка Лыска. Лыска прывяла Ярачку. Прыгожая была Ярачка і такая ласкавая! Мы ёй давалі хлеба проста з рук.

Вясною Лыску і Ярачку пагналі на пашу. У вечары мы сустракалі нашых авечак. Для Ярачкі заўсёды прыгатовім смачнай траўкі. Яна ўжо ведала, што мы яе пачастуем, і вясёла бляяла.

---

Што дае нам авечка? Што робяць з воўны?



## Зрабеце калекцыю.

1. Нямытая воўна;
2. Воўна, вымытая ў гарачай вадзе;
3. Расчэсаная воўна;
4. Суконная нітка.
5. Кавалачкі сукна на коўдры і паліто;
6. Зрабеце з дрэва маленькую прасьніцу.

## Хто колькі год можа пражыць?

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Чалавек | | | | 60 | год. |
| Конь | ад | 15 | да | 30 | „ |
| Бык | ад | 25 | да | 30 | „ |
| Авечка | ад | 12 | да | 14 | „ |
| Каза | ад | 18 | да | 27 | „ |
| Сабака | ад | 16 | да | 26 | „ |
| Кот | ад | 10 | да | 12 | „ |
| Трус | | | да | 10 | „ |
| Мыш | | | да | 3 | „ |
| Жаба | | | да | 16 | „ |
| Груган | | | да | 40 | „ |

## Не падзеляць.

Ела котка малако з міскі. Да коткі падбег Палкан. Котка зафыркала на Палкана. Палкан гаркнуў і схапіў котку за хвост. Мама лінула на іх вады. Котка пабегла пад лаву, а Палкан — на двор.

## Шарык і асва.

Салодка сьпіць Шарык, адпачывае. А над ім асва лётае, гудзіць каля самага вуха.





Прачхнуўся Шарык, стаў на лапкі, асву панюхаць.



Села асва на кветку. Раззлаваўся Шарык, забрахаў. А асва ўсё гудзіць.



Падскочыў Шарык.

Хоча асву зубамі цяпнуць.

Раззлавалася асва і ўкусіла Шарыка за губу.



І панёсься Шарык ва ўсе лапаткі, бачны толькі пяткі.

## Завідлівы сабака.

Бег Лыска па кладцы цераз рэчку, а ў зубах нёс кавалак мяса. Калі гляне, аж у вадзе другі такі самы сабака і таксама нясе кавалак мяса. Стала Лыску завідна; кінуўся ў рэчку адбіраць тое мяса, а сваё з зубоў ён выпусьціў у ваду і згубіў.

## Сабака заразіў.

У нас быў сабачка Жучок. Мой брат Міколка вельмі яго любіў. Здарылася, што Міколка захварэў. Павялі Міколку да дохтара, а Жучок за ім. Дохтар агледзеў Міколку і сказаў, што ў яго ў кішках жыве вялікі гліст — салітэр. Убачыў дохтар сабачку і пытаецца: „Ты вельмі любіш свайго сабачку?“ — „Але, я яго вельмі люблю і нават цалую, а ён мяне“. — „Гэта добра, што ты любіш сабаку“,—сказаў дохтар: „а што яна ліжа цябе, гэта вельмі дрэнна. Гэта яна заразіла цябе глістамі. Яна можа і іншымі хваробамі цябе заразіць. Ня трэба ніколі лашчыць рукамі сабаку і котак, асабліва цалаваць і дазваляць ім лізаць цябе“.

## Стары сабака.

Быў у чалавека сабака Рабчык. Пакуль малады быў, чалавек яго шкадаваў, а як пастарэў, дык ён яго праганяе, есьці не дае. Пайшлі раз бабы ў поле жыта жаць і Рабчык за імі. Брала з сабою гаспадыня на поле і маленькае дзіцянётка. Прынясла яго на поле ў калысцы, калыску павесіла на козлы, а сама пайшла жаць. Рабчык хацеў легчы каля калыскі, дык гаспадыня ўдарыла яго і прагнала. Лёг Рабчык у аддалі, дый ляжыць сумны.



Толькі людзі адыйшліся, аж бяжыць воўк, выхапіў дзіцянё з калыскі дый пабег. А рабчык пабачыў, ды — ўсьлед за ім: гаўкае, рве яго, не пушчае. Пачулі бабы, бягуць з сярпамі, дый крычаць: „Ратуйце! воўк дзіцянё ўхапіў!“

Пачулі мужчыны, дагналі ваўка, адабралі дзіцянё.

Кажа тады гаспадар да жонкі: „Бачыш, мы праганялі Рабчыка, а ён нам якую помач даў! Служыў ён нам шчыра ўвесь век, будзем яго да сьмерці даглядаць. Гэтак і зрабілі.

---

ПРЫКАЗКІ: 1) Да пары жбан ваду носіць: вушка адарвецца і жбан разаб‘ецца. 2) Стары вол ніколі баразны не папсуе. 3) Воўк сабакі не баіцца, ды зьвягі ня любіць.

## Два таварышы.

У баку ад вёскі стаіць на беразе рэчкі адзінока млын. На ганку сядзіць хлопчык. Навокал нікога няма. Толькі Шарык, таварыш хлопчыка, сядзіць на ланцугу каля свайго доміка.

Паказаліся на небе цёмныя хмары, блiснула маланка, загрымеў гром, і дождж паліў, як з вядра. Хлопчык увашоў у пакой, а Шарык схаваўся ў сваю будку ад вялікага дажджу. Маленькая рэчка падымалася ўсё вышэй і вышэй і пачала заліваць двор.

Бачыў хлопчык з вакна, як залівае вада будку Шарыка, які сядзеў на ланцугу і сумна глядзеў на хлопчыка, быццам прасіў у яго дапамогі. У момант выбег хлопчык. Вада яму была па паяс. Ен хуценька дабраўся да Шарыка і адвязаў яго з ланцуга. Шарык паплыў да ганку.

У гэты час вада паднялася яшчэ вышэй. Хлопчык ня здужаў хвалі, яна яго зьбіла з ног, і хлопчык закрычаў. Пачуўшы гэта, Шарык кінуўся да хлопчыка, схапіў яго за адзежу і выплыў на ганак хаты.



## Жарт.

— Чаго плачаш, Янук?

— Капейку згубіў.

— На табе дзьве, толькі ня плач.

Янка узяў дзьве капейкі, схаваў іх, ды ізноў плача.

— Дык чаго-ж плачаш?

— Як-жа мне ня плакаць? Як-бы ня згубіў гэнае капейкі, дык меў-бы ўжо тры.

## Дагадлівая котка.

У вадным доме, як толькі прыхадзіла пара абедаць, званілі ў званок, каторы вісеў на панадворку, з прывязанай да яго вяроўкай. У тым самым доме жыла котка, каторая прывыкла да таго, што яе кармілі пасьля званка, і, пачуўшы звон, сама прыхадзіла ў пакой, дзе елі людзі.

Адзін раз котку зачынілі недзе і яна, хоць і чула званок, не магла выйсьці адтуль, дзе была, і толькі праз некалькі гадзін нехта выпусьціў котку. Але пара абеду ўжо прайшла, а котцы вельмі хацелася есьці. Што яна прыдумала?

Падыйшла да таго месца, дзе вісеў званок, учапілася лапкамі за вяроўку і пачала званіць, колькі ў яе стала сілы. Ей здавалася, што пасьля гэтага званка людзі павінны сесьці абедаць.

Людзі, пачуўшы званок у гэткую нязвычайную пару, прыбеглі глядзець, хто гэта звоніць і надта зьдзівіліся, убачыўшы котку.

## **Страшны кот** (байка).

Вынес чалавек у лес шкоднага ката, дый пусьціў. Сустракае яго лісіца, дый кажа:

„Ці ня будзеш ты ў мяне, каток за гаспадара?“

„А чаму ня быць? — буду!“

Вось пайшоў каток да лісіцы ў хату, а ліска пабегла па ўсім лесе хваліцца. Спатыкае мядзьвядзя і ваўка і так да іх кажа:

„Я ўжо вас не баюся, у мяне ўжо ёсьць гаспадар“.

Яны гэта спалохаліся, дый кажуць: —„Пакажы-ж ты нам свайго гаспадара“.

А ліска сказала: „Калі хочаце пабачыць майго мужа, дык палажэце-ж тут вала, а як ён прыйдзе есьці, дык і пабачыце яго, толькі схавайцеся куды-небудзь“.



Зараз воўк пабег, зарэзаў вала, прынёс, палажыў, дзе яму ліска казала. А сам схаваўся ў хвораст, што недалёка ляжаў, і толькі хвосьцік відаць з хворасту. А мядзьведзь узьлез на высокі дуб на самы верх. Паслалі яны зайку прасіць ліску з катом.

Падбег той да лісінае хаткі, сказаў скоранька:—„Добры дзень! Прасіў бацька і матка, каб вы ласкавы былі, да нас на абед прыйшлі, хлеба-солі зьелі, чарку гарэлкі выпілі“ — дый пабег назад.

Пайшлі кот з ліскаю і давай есьці вала. Кот есьць і мармоча: „Мяў-мяў“. А мядзьведзь, на дубе седзячы, паціху кажа да ваўка: „Які ён: сам малы, а ўсё гаворыць, што яму есьці мала, мала!“

Кот добра пад‘еўшы, стаў азірацца ўва ўсе бакі і ўгледзіў хвост ваўка, што быў відны з хворасту. Яму здалося, што гэта мыш, дык паціханку прыцікаўся, дый схапіў ваўка за хвост. Воўк спало-

хаўшыся, разваліў хворast і стаў уцякаць. Кот, убачыўшы, што гэта ня мыш, а воўк, сам спалохаўся, ды дзе там уцекаць? — Дай ён на дрэва лезьці ды як-раз на тое, дзе сядзеў мядзьведзь. Мядзведзь-жа, пабачыўшы, што ён лезе на дрэва, як зараве: „Ен і па мяне йдзе!“ — Ды са страху — бух на зямлю, крэпка пабіўся, дый пабег, кульгаючы. А кот бачыць, што нікога няма, зьлез з дрэва на зямлю і пайшоў з ліскаю да хаты.

---

ПРЫКАЗКІ: 1) У страха вочы па яблыку. 2) Найгорш калі баішся: і ліха ня мінеш і надрыжышся.

## Бедная котачка.

Сядзела котачка на кухні,
У яе вочачкі папухлі.
— Чаго-ж ты, котачка, плачаш?
Ці піцькі, ці есьцькі хочаш?
— Ні піцькі, ні есьцькі хачу,
Па сваёй жаласьці плачу:



Сам кухар пячонку зьлізаў,
На мяне, котачку сказаў.
Хочуць мне лапкі адбіці;
Чым-жа я буду хадзіці?

## Маладое - дурное.

Прыйшла маленькая мышка ў нару да свае маткі дый кажа: „Вось, мамка, а я на дварэ двух зьвяроў бачыла. Адзін страшны, страшны, а другі добры“. Матка спытала: „Скажы-ж, якія там зьвяры?“ Мышка сказала: „Адзін страшны, ходзіць па панадворку, во — гэтак: у яго ногі чорныя, а чуб чырвоны, вочы вылуплены, а нос крывы. Як я міма яго ішла, ён адкрыў ляпу, нагу падняў ды як закрычыць, ды такжа голасна, што са страху ня ведала дзе дзецца!“

— «Гэта певень», сказала старая мыш. Ен ніколі нічога благога ня робіць, ты яго ня бойся. Ну, а другі зьвер які быў?»

«Другі ляжаў сабе на сонейку, грэўся. У яго шыйка беленькая, ножкі шэранькія, шэрстка гладзенькая. Сам лі-

жа сваю белую грудку і хвастом ледзь-ледзь кратае, ды на мяне глядзіць». Старая мыш толькі паківала галавою, ды сказала: — «Дурное ты, дурное! То-ж сам кот быў!»

---

ПЫТАНЬНЕ: Чаму трэба слухаць старэйшых?

## Дадумаліся.

У сьвірне пасяліўся сярдзіты кот. Дрэнна стала жыць мышам. Сабраліся мышы на раду: што рабіць, каб як ад ката збавіцца? Думалі,—думалі, не дадумаліся.

Аж адазвалася нейкае мышанё: — Я ведаю, што трэба зрабіць!—Трэба кату званок на шыю пачапіць, тады будзе чутно, куды ён ідзе, і мы пахаваемся.

— Добрая твая выдумка,—кажа старая мыш, але хто-ж гэты званок пачэпіць на ката? Вось вазьміся ты, дык мы табе дзякуй скажам.

---

ПРЫКАЗКА: Блізка відаць, ды далёка дыбаць.





## Што каму.

Жылі ў аднаго гаспадара кот, певень, сабака і казёл. Увечары, бывала, зьбяруцца сабе ўсе яны каля ганку і спакойнінька гаманяць аб свае справы. Аб адным толькі не маглі яны прыйсьці да згоды: што на сьвеце самае найлепшае?

— „Нічога ня можа быць лепшага за малачко“ — кажа каток Мурка, садзючыся на ганачку; — добра яно і мышку злавіць!

— Што малако? Каб ячмень, ці крупы,—гэта што другое, кажа певень.

— Глупстава вы, браткі, кажаце, — сьцішаў іх Лыска, — калі што ёсьць запраўды добрае, гэта костачка. Эх, колькі я за свой век гэтых самых костачак паядаў! Ужо вы са мной не сьпірайцеся.

— Добра бывае і сена сьвежанькага пажаваць; а яшчэ як пахучае! — уставіў і сваё слова казёл.

Спрачаюцца яны і да гэтае пары, ніяк да згоды прыйсьці ня могуць.

---

ПРЫКАЗКІ: Душа мая не крывая, усё прымае.

## Дурны парабак.

Жыў калісь дурны парабак. Раз пайшоў ён у лес рубаць дровы. Стаў ён рубаць сукі на дрэвах. Адзін сук на дубе быў высока. Парабак узьлез на дуб, сеў ожэрдзь на сук, плячамі да дрэва і зрубаў сук. Другі сук быў яшчэ вышэй. Парабак узьлез вышэй і, каб карацей адрубаць, сеў на яго перадам да дрэва. Ен ня шмат рубаў, і сук пачаў



трашчаць. Парабак рады быў, што гэтак скора адрубае сук, і сказаў: „Цяпер я заўсёды буду гэтак рубаць“. Але сук зламаўся, і парабак зваліўся на зямлю.

## Сто ваўкоў.

Апавядаў адзін хлапец:

— Як ішоў я ўчора праз лес, вось, браткі мае, страху было! Ледзь уцёк.

Пытаюцца яго:

— А што-ж там такое?

— Ды мусіць аж сто ваўкоў калі пагоняцца за мною!

— Ну?

— Чаго там—ну! Ужо калі ня сто, дык паўсотня была.

— Ды іх-жа ў лесе гэтулькі няма.

— Вось яшчэ і ня верыць. Я кажу, што пэўна з дзясятак гналася...

— Ды ты не мані!...

— Ну хіба-ж я маню? Я-ж кажу — як бег за мною воўк.

— Ды дзе-ж ты таго ваўка бачыў?

— Ну, праўду кажу: іду я, а ў хмызьняку нешта кратаецца.

## Лебедзь, шчупак і рак.

**(Байка Крылова).**

Там, дзе еднасьці і згоды
Няма шчырых у людзей,
Праца іхняя заўсёды
Ліха, марна прападзе.
У калёсы запрагліся
Раз Шчупак, Лебедзь і Рак;
З усіх сіл вязьці ўзяліся, —
Воз ня рушыцца ніяк.
Пад нябёсы Лебедзь рвецца,
Шчупак цягне у ваду,
Распусьціўшы клюшні, пхнецца
Рак назад, як на бяду!
Хто з іх вінен, хто ня вінен,
Ня нам гэта разьясьняць,
Ды калёсы і дагэтуль,
Як стаялі, так стаяць!

## Гарэх.

Два хлапцы, бегаючы па панадворку, знайшлі гарэх і ніяк не маглі разьдзяліць паміж сабой.

Адзін хлапец крычыць: Ен мой! я яго першы ўбачыў. Другі ня ўступае:



„Мой гарэх! Я яго першы падняў!“ Аж біцца пачалі паміж сабой. — Тутака надыйшоў трэці хлапец. Даведаўся ён, аб чым ідзе сварка. — Ну, досіць ужо вам, кажа, — я суміру вас.

Узяў ён гарэх, раскусіў яго, зярнё сам зьеў, а шалупінкі аддаў хлапцам, сказаўшы: На, табе адну шалупіну за тое, што ты першы ўгледзіў гарэх, а табе другую шалупіну за тое, што ты падняў яго. А зярнё мне за тое, што я вас пámірыў. І пайшоў сабе, сьмеючыся.

## Во, дык браток!

— Што-ж гэта, Петручок, паеў, паеў усе абаранкі, а аб малой сястрыцы і не падумаў.

— Я, мамачка, усё думаў, усё думаў, ды баяўся, каб яна не прыйшла пакуль ня зьем.

## Бацькава навука.

Навучаў бацька сыноў, каб жылі згодна. Сыны яго ня слухалі. Ен сказаў тады прынесьці сабе венік, ды і ка-

жа сыном: „Зламайце яго“. Пробавалі сыны ламаць, ды не ўдалося.

Тады бацька разьвязаў аборачку на веніку; венік рассыпаўся. Бацька сказаў сыном ламаць па аднэй розачцы. Сыны зараз усё паламалі.

Кажа тады бацька: „Калі будзеце ў згодзе жыць, ніхто вас не перасіліць, а як будзеце сварыцца, дык кожнага з вас паасобку таксама лёгка будзе перамагчы, як зламаць розачку.

---

ПРЫКАЗКА: Дзеткі падрасьлі—хатку растрасьлі.

## Доля батрачкі.

(Верш Якуба Коласа).

Маці ў службу выпраўляе родную дзяціну і ўкрадкам выцірае горкую сьлязіну.

— Будзь паслушна ты, дачушка — навучае матка — дагаджай чужым ты, служка, ды цярпі дзіцятка! Не адзін



раз твае вочкі заплывуць сьлязою; твая доля цямней ночкі, цяжка быць слугою! Не уважыць чужаніца ручак тваіх белых; поту выльлецца крыніца з шчочак загарэлых. Леткам ўстанеш раней зоркі, перша пойдзеш ў поле... — Ох, дачушка, хлеб твой горкі, горка твая доля!

Маці дочку разважае, сябе цешыць стара; жаль ёй к сэрцу падступае, якбы тая хмара.

Вось дзяўчына ўжо гатова, пакідае хатку. — „Ну, матулька, будзь здарова!“—і цалуе матку.

Вышла маці ўсьлед за ёю, стала пры парогу і падпёршы твар рукою, глядзіць на дарогу.

Доўга матка ўсё глядзела, доўга паглядала, покі Ганны хустка бела з вачэй не прапала.

# VI. ВЯСНА.



## Канец зіме.

Адсьпявалі завеі свае дзікія песьні. Даволі траскучы мароз ціснуў усё жывое і няжывое. Хоць і няласкава глядзіць яшчэ сіняе неба на зямлю і засьцілае свой абраз халоднымі пялёнкамі сьнегавых хмар, але часы йдуць к вясьне. Дзень большае, вышэй падымаецца сонца, цяплей грэе яно з кождым днём і капае сьнег у поўдзень са стрэх. Сьвятлее ўсюды.

Скора, скора прыйдзе вясна, прыляцяць



птушкі з выраю, ачысьціцца поле ад сьнегу, зазелянеюць дрэвы, зацьвітуць сады, вырасьце трава.

Эх, тады будзе раздольле!

Скарэй прыходзьце да нас, цёплая вясна, вясёлыя ясныя дзянькі!

## Веснавыя месяцы.

Сакавік, красавік і травень.

---

ПРЫКАЗКА: І сакавік на нос садзіцца.

## Назірайце ў сакавіку.

1. За адлігамі, за марозамі і галаледзіцаю.
2. Калі зьявяцца першыя лапінкі.
3. Калі пабурэюць і папсуюцца дарогі.
4. Калі пойдуць крыгі на рэчцы.
5. Калі пачнуць рабіць рассаднікі
6. Калі зьявяцца мухі, камары, матылі.
7. Калі вароны і вераб'і пачнуць будаваць сабе гнёзды.
8. Калі прыляцяць грачы.
9. Калі прыляцяць жаўранкі і шпакі?

## У сакавіку.

Бацька з раньня да вечару на двары: ладзіць калёсы, папраўляе плуг ды барану, майструе збрую. Трэба, каб да сяўбы ўсё было гатова.

У садзе бацька прыбірае зімовую адзежу для дрэў, абчышчае дрэвы ад моху. Трэба, каб дрэвы сустрэлі вясну падчышчанымі.

Матка даканчывае тканьнё, саджае на яйцы курэй і качак. А дзеці топчуцца паміж абодвымі. Дапамагаюць то аднаму, то другому.

---

Паназірайце, як вашы бацькі рыхтуюцца да вясны. Які ўдзел вы прыймаеце ў іх працы?

## Паводка.

Крэпкі, магутны аковы зімовыя!
Лёдавы крыгі на захад і ўсход...
Бліснула сонца, сонца вясновае,
Топіцца гурбіна, топіцца лёд.
З грукатам, з ломам крыга за крыгаю
Прэцца, нясецца ў нязнаную даль;
Хваля за хваляю коціцца, мігае,
Ломіць прашкоды, як молатам сталь.





## Ідуць крыгі.

— Ідуць крыгі! Ідуць крыгі! — Першае, што пачулі сёньня ад дзяцей, якія жывуць за ракою. Хадзём глядзець! Праз дзесяць хвілін мы былі ўжо там. Вялізарныя крыгі нясьліся проста на быкі, пастаўленыя перад мастом. Крыгі налятали на быкі, станавіліся ўгару; на іх ззаду наляталі другія, з трэскам разьбіваліся і яшчэ шпарчэй нясьліся далей ужо меншымі кавалкамі.

Вада ўсё прыбывала. Раніцаю было толькі пяць сантымэтраў, а прыгрэла

сонейка — вада пераваліла за мэтр. Нясуцца крыгі з ровам, з трэскам. Нясуць на сабе ўсё, што зьляжалася за зіму на лёдзе: галінкі, трэскі, дровы і цэлыя бярвеньні. Увесь бераг абсыпаны дзяцьмі. Іх гоман, зьдзіўлёныя, захопленыя крыкі вясёла раздаюцца наўкола. Вясна, вясна ідзе! І нішто яе не затрымае.

## Квактуха.

Вось ужо сонейка пачало цяплей сьвяціць. Куры пачалі класьці яйкі, і мамка ўзяла іх у хату. Марынка карміла курачак і лічыла яйкі. Раптам адна курачка згінула. Няма й няма Чубаткі. Дзе падзелася?

А, вось дзе яна! Залезла пад печ. Хацела Марынка яе выцягнуць, ды ня йдзе. „Глянь, мамка, ды пад ёю ўжо чатыры яйкі“. — „Не чапай яе, Марынка“—гаворыць матка: „Чубатка хоча вывесьці дзетак“ — і падклала пад яе яшчэ шэсьць яек. „Як гэта з яек Чубатка будзе дзетак выводзіць?“—думала Марынка і пачала кожны дзень сачыць



за Чубаткаю. Калі квактуха зьлятала з гнязда, каб пакляваць, Марынка хутчэй да гнязда: глядзіць, мацае яйкі — цёплыя; прыложыць да вуха — ня шуміць, патрасе — нічога не чуваць.

— Мама, разьбі яечка! Мы паглядзём, што там робіцца, — прасіла Марынка.

Але матка казала, што так куранятка ў яйку папсуеш.

## Назіраньні над куранятками.

1. Колькі яек падклала ваша матка пад квактуху?

2. Праз колькі дзён вывеліся кураняткі?

3. Якімі яны вывеліся? Якога яны колеру? Ці ўмеюць яны хадзіць? Ці ўмеюць глядзець?

4. Чым у вас кармілі першы, другі і трэці дзень куранятак?

5. Калі яны пачалі самі зьбіраць сабе ежу?

6. Ці пазнаюць яны голас сваёй маткі? Ці слухаюцца яе?

7. Ці пазнаюць кураняткі голас таго, хто іх корміць?

Пакармеце іх самі і праз некалькі дзён пагукайце.

## Каршун і качачкі (гульня).

Гульцы выбіраюць каршуна і матку. Пасьля становяцца ў рад ззаду маткі, крэпка трымаючыся адзін за аднаго. Каршун садзіцца на зямлю і капае трэскай ямку, а матка, ідучы з сваім хвастом навокал каршуна, пытаецца:

— Каршун, каршун, што ты робіш?
— Ямку капаю!
— На што табе ямка?
— Каменьчыкі шукаю!
— На што табе каменьчыкі?
— Іголачкі вайстрыць!
— На што табе іголачкі?
— Мяшочкі шыць!
— На што табе мяшочкі?
— Каменьчыкі зьбіраць!



— На што табе каменьчыкі?
— Тваім дзеткам зубы выбіваць!

Пасьля гэтых слоў каршун кідаецца лавіць апошнюю ў хвасьце. Матка, расставіўшы рукі, забягае наўперад каршуну, увес хвост падаецца за ёю. Ухапіць другую качачку, а ня заднюю, каршун ня мае права. Гульня йдзе, пакуль каршун не адарве ад маткі ўсіх качачак.

## Гракі прыляцелі.

Гракі прыляцелі! Нашы першыя вястуны вясны! З вясёлым крыкам расьселіся яны на яшчэ голых дрэвах і пачалі перагаварывацца паміж сабою — каму трэба паправіць старое гняздо, а каму і зусім новае будаваць. Крык, гоман, лётаньне.

## Прылёт птушак.

Ціхая раніца. Сонейка толькі што ўзыйшло. У полю яшчэ ляжыць сьнег. Толькі ўзгоркі чарнеюць. Лужынкі сьцягнуліся за ноч лядком. Але ўжо

чуваць — вясна, і ўсе пазірае па вясноваму.

Выйшаў маленькі Янук на двор.

Вясёла так яму, лёгка на сэрцы. Прыгрэе зараз сонца, добра будзе гуляць на дварэ.

Што гэта звоніць у небе тоненькім срэбраным званочкам? Так хораша, так міла, — душа замірае! Янук прыслухаўся. Ня відаць нічога, а ў небе ціха разьліваецца тоненькая песьня, як грае хто на срэбранай дудачцы. Гэта жаўранка! І так вясёла Януку, здаецца, каб льга было, пацалаваў-бы мілую птушачку. Галубка! яна ўжо вярнулася з далёкае старонкі ў наш бедны край і ў ясным небе заліваецца дзіўнаю песьняю.

— Татуля! татуля! чуеш жаўранку?

Бацька Янука прыслухаўся.

— Але, жаўранка. Ну , зараз, брат, і шпак прыляціць, а там бусел, а за ім і ўсе птушкі.

Рад Янук, што першы пачуў ён жаўранку, і пабег хваліцца сваім сябрам. Дзеці выходзілі на двор слухаць першую песьню вясны. Ім было вясёла.



## Шпакоўніца.

Старык-гароднік рабіў скрыначку. Вырэзаў з аднаго боку дзірачку і кажа: „Гатова кватэра!“

— Што гэта ты, дзядулька, зрабіў?— запытаўся ў яго маленькі ўнучак.

— Вясна надыходзіць, хутка шпакі прыляцяць, — гаворыць дзед, — вось аб іх я клапачуся. Будуць яны жыць у маёй кватэры, а за гэта будуць песьні сьпяваць і гарод вартаваць.

— А як-жа шпакі гарод будуць вартаваць? — запытаўся ўнучак.

— Улетку, унучак, на гародзе няма ведама колькі разьвядзецца жукоў, чарвякоў, мошак і матылёў. І ўсе яны будуць грызьці капусту, гуркі, рэпу і іншую гародніну. А шпакі за дзень не адну сотню іх зьядуць.

— Давай, унучак, паставім шпакоўніцу.

Выбраў дзед высокую жардзіну, крэпка прывязаў вяроўкаю, каб вецер ня скінуў, і гаворыць:

— Вось і гатова, — чакай, унучак, гасьцей!

### Як зрабіць шпакоўніцу.

Зрабіць шпакоўніцу ня цяжка. Трэба зьбіць скрыначку ў 45 - 50 сантымэтраў вышынёю і 20 сантымэтраў шырынёю ў абодвы бакі. Зьверху зрабіць дах з дашчок. На аднэй сьценцы ў 10 сантымэтрах ад верху трэба зрабіць круглую дзірачку ў 5 сантымэтраў у папярочніку. Гэта лятоk для шпакоў. Пад лятком трэба прымацаваць жардзінку, каб шпак мог сядзець на ёй.

Для шпакоўніцы можна скарыстаць дуплё адпаведнай вялічыні. Трэба тольі тады зрабіць дно, дах і лятоk.

Шпакоўніцу трэба прывязваць да высокага дрэва, або на высокую жардзіну.

Прывязваць неабходна крэпкай вяроўкай. Калі прывязваеце да жардзіны — прымацуйце зьверху галінку, каб шпакі маглі на ёй сядзець.

### Назірайце ў красавіку.

1. Калі рэчкі ачысьцяцца ад лёду?
2. Калі выпадзе апошні сьнег?
3. Калі зьявяцца першыя кветкі? (маць-мачыха, пралеска).



4. Калі зацьвітуць таполі і вязы?
5. Калі ажывуць освы і пчолы?
6. Калі пачнуць квакаць жабы?
7. Калі прыляцяць гусі і жураўлі?
8. Калі закукуе зязюля?
9. Калі пачнуць сяляне выяжджаць у поле?
10. Калі выганяць быдла ў поле?

---

Назіраньні, як і ў сакавіку, запісвайце ў дзёньнік.

### Вясна на Палесьсі.

(Верш Якуба Коласа).

Сьвішчуць птушкі над балотам,
Аж гамоніць лес і гай,
І далёка за чаротам
Бухнуў ў возеры бугай.
Па азёрах пайшлі крыгі...
Пералвалы аж гудзяць,
Над балотам стогнуць кнігі,
Жураўлі ў гары крычаць.
Аж душа мая сьвятлее,
І пяяць я йзноў гатоў.
Рады ўсе, што сонца грэе,
Што няма больш халадоў.

## Ластаўка.

Прыляцела ластаўка з-за сіняга мора, села і засьпявала: „Усё перапілі, усё пераелі, пералушчылі! А ніхто такі не пражорлівы, як той пастух: ён і дома жарэ і ў торбу бярэ і ўсё яму мала“.



## Ластаўка - вартаўнік.

У садзе і на двары вясёла: шумяць вераб‘і, крычаць каўкі, квокча чубатка, пішчаць кураняткі.

Раптам закрычала ластаўка, і ўсё зьмянілася. Вераб‘і пахаваліся пад стрэхі і ў кусты. Кураняткі зьбегліся пад крыльлі чубаткі. Стала ціха, ціха. Толькі ластаўка не перастае крычаць, быццам б‘е трывогу.



З-за плоту паказаўся злодзей-каршун. Зоркія вочы драпежніка аглядаюць двор. Чубатка праразьліва закрычала, быццам пачала зваць на дапамогу. Яшчэ больш крычыць ластаўка, лётае навокал каршуна, усё роўна, як задзяўбаць яго хоча. У гэты час выбеглі з хаты бабулька і ўнучок, загукалі, замахалі на драпежніка. Падняўся каршун і паляцеў ні з чым. А бабулька і кажа ўнучку: „Не чапай, Янка, гнязда ластаўкі, — яна нашых куранят вартуе“.

## Нагляданьні над галінкамі дрэў.



Адрэжце па галінцы розных дрэў: каштану, вербы, бярозы, яблыні і інш. Пастаўце іх у бутэльку з вадою і сачыце, як яны будуць распускацца. На бутэльку наклейце паперку і на ёй запісвайце:

1. Якое дрэва—назва яго.
2. Калі вы яго паставілі ў бутэльку?
3. Калі зьявіліся лісьцікі?
4. Калі лісьцікі разьвярнуліся?
2. Калі зацьвіло дрэва?

## Як вырас клён.

На старым клёне шмат было крылатага насеньня. Падхапіў вецер адно з іх і панёс далёка на вялікую высокую гару. Тут звалілася насеньне ў мягкі мох. Зерняткі вылушчыліся і прарасьлі; яны пусьцілі ў зямлю караньні, а над зямлёю паказаліся маладыя расточкі. Караньні ўсё глыбей і глыбей спускаліся ў зямлю, высмактывалі з яе патрэбную ім вільгаць, а маладыя лісточкі цягнулі да сябе паветра і сьвет.

Расьлінка ўсё большала, карані яе станавіліся таўсьцей і даўжэй; вырас тонкі і стройны ствол, каторы штогод станавіўся вышэй і вышэй.

Прйшло шмат год. Калі клён вырас і разросься ў вялікае дрэва, прыйшлі ў лес дрэвасекі. Убачылі яны высокі, роўны клён, сьпілавалі дрэва і прадалі яго сталяру. Сталяр парабіў з кавалкаў кляновага дрэва шмат розных рэчаў: лыжкі, судзьдзё, пушачкі, лінейкі і шмат іншага.

## Досьлед.

Задумалі дзеці даведацца, што трэба расьлінам, каб яны расьлі. Узялі яны дзьве часткі фасолі. Адну частку яны намачылі на цэлую ноч. Другую пакінулі





сухою. На другі дзень часткі фасолі пасадзілі і падпісалі.

Зямлю ў скрыначцы, дзе была мочаная фасоля, кожды дзень палівалі. Праз некалькі дзён у гэтай скрыначцы паказаліся расткі. У другой скрыначцы, якую не палівалі, нічога ня было. Разрылі зямлю, а фасоля такая-ж самая, як была, калі яе садзілі.

Тады дзеці даведаліся, што расьлінам, каб яны расьлі, патрэбна вада.

---

Даведайцеся, што яшчэ расьлінам патрэбна. Пастаўце скрынку з насеньнем у цёмны куток і сачыце.

## Фасоля (назіраньні).

Намачэце насеньні фасолі, альбо бобу, ці гароху ў вадзе. Потым палажэце на кавалачкі мокрага лямцу ў чарапку і назірайце.



Пісьмова адкажэце:

1. Чым агорнута насеньне?

2. На колькі частак дзэліцца насеньне?

3. Што знаходзіцца паміж долькамі насеньня?

4. Як завуцца часьціны зародка?

5. Нарысуйце насеньне, яго часьціны, зародак і падпішыце.

## Мая рэпа.

**(Дзёньнік дзяучынкі).**

**20 красавіка.** Насеньне рэпы палажыла ў рызінцы ў ваду. Праляжала так ноч.

**21 красавіка.** Раніцаю рызінку з насеньнем пералажыла ў мокрыя апілкі.

**22 красавіка.** Амаль што ўсё насеньне з беленькімі расткамі. Пасадзіла на градцы і паліла.



**23 красавіка.** Холадна і вільготна. Не палівала.

**24 красавіка.** Зноў холадна й вільготна. Не палівала.

**25 красавіка.** Рэпа ўзышла, паказалася зеляніна.

**26 красавіка.** Паказаўся лісьцень. Паліла. Стала цёпла.

**30 красавіка.** Лісьцень стаў большы і мацнейшы. Паліла вельмі мала.

**12 траўня.** Зьявіліся лісткі.

**15 траўня.** Рассадзіла рэпу па баках грады на 18 сантымэтраў адна ад другой. Паліла.

**17 траўня.** Рассада добра прынялася.

**25 траўня.** Вырвала адну рэпку. Есьць ужо маленькі корань з доўгім хвастом.

| | |
|---|---|
| **1 чэрвеня.** | Цёпла. Вырвала рэпку. Корань ужо з гарэх. Лісьці вялікія і цёмна-зялёныя. |
| **10 чэрвеня.** | Вырвала рэпку. Корань вырас з галубова яйка. Больш не палівала. |
| **25 чэрвеня.** | Лісьці шаршавыя, вялікія. Мошак няма. Велічыня рэпы амаль што з курынае яйка. Сама рэпа — жоўтая. Папрабавала—смачная. |

## Гульня ў мак.

Усе, што хочуць гуляць у мак, мераюцца на кійку, а чыёй руцэ ня хопіць узяцца за кіёк, той становіцца ў колы. Тады бяруцца зарукі, ходзяць наўкола і пяюць:

А пасею я мак
Ды на даліне,
Авы, маэмакавачкі,
Залатыя галовачкі,
Станьце ў рад —
Як быў мак.

Пасьля затрымоўваюцца і пытаюцца ў таго, што ў коле:



— Ты араў на мак?
— Араў.

Папытаўшыся, зноў ходзяць наўкола і пяюць тое самае, што і раней.

— Ты скарадзіў на мак?
— Скарадзіў.

Зноў ходзяць і пяюць „А пасею я мак“... і пытаюцца:

— Ці абышоў мак?
— Абышоў.

Зноў ходзяць і пяюць.

— А ці цьвіў мак?
— Цьвіў.

Зноў пяюць.

— А ці пасьпеў мак?
— Пасьпеў.

Як толькі скажа „пасьпеў“, дык усе з кола кідаюцца на таго, што стаяў у сярэдзіне, каб схапіць яго за чуб, і крычаць:

„Трасеце мак! Трасеце мак!“, Той, хто быў у коле, уцякае. Пасьля гульня пачынаецца з пачатку.

## Пралеска.

Зіма яшчэ нязусім пакінула зямлю. Яшчэ ляжыць сьнег у лагчынах. Пожні зранку яшчэ бялеюць ад марозу. Але ўжо дзе-ні-дзе зелянее маладзенькая травіца, а па берагох лесу паміж сухога лісьця глянула сваім беленькім вочкам пралеска, падняўшыся на тонкай ножцы ад сваіх зялёных лісточкаў.

Пралеска — самая першая веснавая краска. Яна першая прачыхаецца ад зімовага сну і вяшчуе пачатак вясны.

Праз нядоўгі час лес і поле пакрыюцца рознымі краскамі, але гэта першая госьця вясны дае больш прыемнасьці.

## Краска.

Краска, мілая мая,
Госьця веснавая!
Як ты хараша цьвіцеш
Тут ў глушы, любая!
З ціхім усьмехам з табой
Вецярок жартуе,
І цябе ў вясёлы дзень
Сонейка цалуе.



## Назірайце ў траўні.

1. Запішыце, калі будзе першая навальніца.
2. Калі будзе град — запішыце.
3. Калі зацьвітуць яблыні?
4. Калі зацьвітуць чарэмха і бэз?
5. Калі зьявяцца майскія жукі?
6. Калі пачулі першы раз салаўя?
7. Калі пачнуць сеяць бульбу?
8. Калі пасеялі авёс, ячмень?
9. Калі выведуцца маленькія каўкі?

## У садзе.

Пайшлі дзеці ў сад. Узялі кніжкі і вяроўку. Яны разьбіліся на дзьве групы: садоўнікаў і каморнікаў. Садоўнікі падлічылі дрэвы: яблыні, ігрушы, сьлівы, вішні і аграст. Каморнікі зьмералі сад удоўж і ўпоперак. Потым назьбіралі красак і сплялі вянкі. Набегаліся, нагуляліся. Вясёла было. А потым і пачыталі свае кніжкі.

# Скавуты.



## Выбірайце сабе добрых таварышоў.

Вясна прышла, хутка набяжыць і лета. Трэба назіраць за пагодай, за дрэвамі, кветкамі, птушкамі, за жукамі ды матылямі. Можна і пагуляць на цёплым сьвежым паветры.

Добра назіраць аднаму, а яшчэ лепш грамадою. Грамадой і гуляць весялей.

Выбірай сабе добрых сяброў, якія цябе ня скрыўдзюць і не навучуць нічому благому.

Найлепш запішыся ў піанэрскі скавуцкі атрад. Законы скавутаў дужа добрыя, піанэры-скавуты — найлепшыя сябры, з імі і вясёла пагуляеш і розуму набярэшся.



# Пчолка.

Толькі наступіла
Пара веснавая —
Вылецела ў поле
Пчолка залатая.

Ей за шчырай працай
Вясёла і шчасна;
Тут красуе верба,
Сонца сьвеціць ясна.

Лётае па красках
Пчолка залатая,
Кветачкі цалуе
I мядок зьбірае.

Назьбірала пчолка
Пылку і мядочку, —
Ім накорміць дзетак
У сваім дамочку...

У вульлі шумліва:
Праца там кіпела.
К родненькай сямейцы
Пчолка прылящела.

---

У каго з вас дома ёсьць пчолы? Раскажыце, як яны жывуць.



## Жабкі.

Аднаго разу дзеці прышлі да сажалкі і ўбачылі каля берагу многа чорненькіх з галавой і хвосьцікам галавасьцікаў.

— Юрка, Яся гаворыць, што гэта жабкі. Хіба-ж гэтыя галавасьцікі падобны да жабак?

— Але, гэта апалонікі, будучыя жабкі. Давай пасадзім іх у слоік і паглядзём, што з іх будзе. Так і зрабілі. Слоік з вадою і апалонікамі паставілі на вакно ў цень. Ваду кожны дзень мянялі. Праз некалькі дзён у апалонікаў зьявіліся заднія лапкі, а потым пярэднія.

Праз некалькі дзён і хвост прапаў.

Выпусьцілі жабак зноў у сажалку. А яны павыскоквалі з вады і паселі на траве.





## Авечак стрыгуць.

Вось прышла пара авечак стрыгчы. Загналі іх у рэчку, каб воўна на іх вымылася і была чыстай. Далі авечкам высахнуць на цёплым веснавым сонейку. А на двары іх ужо чакаюць. Вось загналі ўсіх авечак на двор і пачалі лавіць. Злавяць авечку, зьвяжуць ёй ногі, паваляць на зямлю, сядуць каля яе і пачынаюць стрыгчы з яе цёплую, мягкую воўну. Усю воўну састрыгуць, і робіцца авечка голая. А калі не састрыгчы шэрсьць, то ўсё роўна летам яна павылазіць і да зімы зноў вырасьце новая.

## Буслы.

У садочку, пры дарозе,
З даўных часаў на бярозе
Буслы завяліся.

Вельмі было дарагое
Ім гняздо сваё старое, —
На век з ім зжыліся.

Але людзі захацелі,
Каб-то буслы пераселі
На другі бок саду;

Для таго слуп укапалі,
Барану прымацавалі,
Розную прыладу.

Тыя-ж буслы больш цанілі
Гняздо, што дзяды зрабілі.
З ім не разсталіся.

Вельмі было дарагое
Ім сваё гняздо старое,
На век з ім зжыліся.

---

ПРЫКАЗКА: Мілей свая хатка, як чужая вёска.



## Казка аб аднэй сасонцы.

Сядзела вавёрачка на сучку, грызучы сасновую шышку; вынімае з-пад лускі зернятка па зернятку і есьць. Адно зернятка звалілася; вецер падхапіў яго, занёс далёка і кінуў на траву. Зялёная травіца прытуліла сасновае зернятка і там ляжала яно спакойна праз лета і восень.

Калі настала зіма, зернятку было цёпла пад травіцаю, пакрытаю пушыстым сьнегам. Прышла вясна, сонейка крэпка прыгрэла і сьнег растапіўся.

Зернятка быццам прабудзілася з доўгага сну, разбракла, шалупінка на ім лопнула, і пусьціла яно маленькі расточак з каранькoм.

Каранёк у зямлю выпусьціў шмат маленькіх каранькоў, каторыя жывіліся, выцягваючы з зямлі сокі.

Гэтыя сокі ідуць угару да цацявіны, цацявіна расьце, і творацца на ёй новыя сучкі і іголкі. Так ішоў год за годам. Сасонка расла шчасьліва; яна пачала цьвісьці кожную вясну і ад яе адраджаліся ўжо маладыя сасонкі.

Праз гадоў пяцьдзесят наша сасна

параўнялася з найвышэйшымі дрэвамі ў лесе. І расла-б яна яшчэ дзьвесьце-трыста гадоў, каб не прыйшлі з сякерамі людзі. Спачатку, як толькі цюкнулі сякераю па сасне, паляцелі шчэпкі, пацякла жывіца. Яшчэ і яшчэ ўдарылі, змаглася сасонка, пахілілася і звалілася на зямельку.

## Выганяюць стада.

Золак толькі што заняўся. Раніца была ціхая і цёплая. Неба чыстае і яснае, ніводнай хмаркі.

Выйшаў пастух на край вёскі і затрубіў у трубу.

Пратрубіў тры разы. Потым павольна пайшоў па вуліцы вёскі. Разам з ім ішоў яго памоцнік — хлопчык. Яшчэ толькі дайшоў ён да сярэдзіны вёскі, а ўжо з усіх бакоў заскрыпелі брамы, замычалі каровы, забляялі авечкі — гаспадыні іх выганяюць.

Паказалася сонца з-за лесу і пазалаціла вярхушкі хат. К калодзежу, дзе зьбіралася стада, сьпяшаліся прыгнаць скаціну гаспадыні.

Стада ўжо сабралася. Пастухі распусьцілі даўгія пугі і пагналі яго на пашу.



## Пастушок.

Сонца толькі што ўзыйшло,
Шле наўкол сваё сьвятло.
Вышаў з хаты пастушок
І зайграў ён у ражок.

Пастушок: „Ту-гу, ту-гу!...
Добра будзе на лугу
Майму стадку пагуляць,
Роснай траўкі пашчыпаць“.

І кароўкі ўміг яму
Адказалі: „Му-му-му!
Будзем цэлы дзень гуляць,
Траўку, красачкі шчыпаць.

Каб спачыць нам у цяньку,
Пабываем і ў гайку.
Там крыніца б'е струёй;
Будзем піць вадзіцу ў ёй.

А як прыдзе ў полі змрок,
Сонца зьнікне за лясок,
Зноў у вёску вэчарком
Прыдзем з смачным малачком“.

---

ПЫТАНЬНІ: Колькі кароў, цялят, быкоў і авец у стадку вашай вёскі.

## Яшчарка.

Як толькі веснавое сонейка прыгрэе зямлю, прачыхаецца да жыцьця ў сваёй норцы яшчарка. Згаладалася яна за зіму і барждждэй выпаўзае на сонейка пагрэцца і чаго-колечы зьесьці. А есьць яна камароў, мух, жукоў, чарвякоў, спрытна іх ловіць і глытаець.

Па зямлі яшчарка перабегае шпарка, хоць бруха ў яе і цягаецца па зямлі. Лапкі ў яшчаркі з войстрымі кіпцікамі, каторымі яна зачэпліваецца, калі хоча ўзьлезьці на дрэва, ці на плот. На вясну яшчарка зносіць у мягкі мох некалькі яечак, без шалупіны, і балей іх не даглядае. Самі вывядуцца з яечак маленкія яшчаркі, самі навучацца корм даставаць і бегаць.

Кроў у яшчаркі сьцюдзёная і, пакуль сонца грэе, датуль яшчарка жыве. Перастае грэць сонца, застываець кроў у жылах яшчаркі, і яна хаваецца ў сваю норку і сьпіць там усю зіму.

## Песьня маладога аратага.

Золак зьяе. Ціха ў полі.
У небе чутны дзіўны хор.
Я з вясёлай песьняй волі
Выяжджаю на прастор.





Раньніх птушак прывітаньне,
Песьні, працу і зямлю
І вясеньняе сьвітаньне
Як-жа моцна я люблю!

Малады і здольнасьць маю,
Сілы, гарту ў мяне шмат;
Для карысьці свайго краю
Працаваць заўсёды рад.

Я пяшчаныя загоны
Добра, тлуста угнаю;
Ўзыйдуць добрыя тут плёны,
Як старанна абраблю.

Гэй, мой конік, на разлогі!
Варушыся хутка, брат, —
Нашы новыя нарогі
Зробяць ў полі добры лад!

## Попел.

Дзядзька Рыгор выкапаў пад паветкай ямку.

— Навошта яна? Яшчэ ўвалішся ў яе! — сказаў Міколка.

— А ты глядзі, не валіся, — толькі і сказаў дзядзька Рыгор.

Цяпер кожную раніцу бабы, як толькі выграбуць попел з печы, дык і нясуць яго ў гэтую яму.

— Вось яшчэ,—казаў Міколка, сыпалі-б у гной, навошта яго зьбіраць?

—Не, унучак,—кажа бабулька,—попел з гноем не мяшаюць, трэба, каб ён быў сухі.

— А навошта ён, такое дабро, патрэбен?—засьмяяўся Міколка.

— Ад яго вялікая карысьць,—дадала бабулька. — Попелам можна зямлю угнаіць, а тады і авёс і бульба будуць радзіцца лепей.

## Чым мы арэм.

Раней людзі ня мелі плуга. Зямлю яны ўскапывалі сукаватай палкай і сеялі рознае насеньне.







Сельска-гаспадарчыя прылады.

Працаваць было цяжка, а ўраджаі былі зусім малыя.

Тады людзі дадумаліся да сахі.

Стала лягчэй, бо ў саху можна запрагаць валы або каня. Але саха не падразае карэньне зельля і дрэнна адварачвае скібы.

І людзі дадумаліся да плуга. Плуг — сын сахі. Ен і падобен да яе, але ў рабоце куды лепей сваёй маткі.

Але і конным плугам пахаць няспорна і цяжка. І людзі дадумаліся да трактараў, якія працуюць машынаю.

---

ЗАДАНЬНІ: 1. Зрабеце ўзоры сукаватай палкі, сахі і плуга.

2. Зрабеце маленькую барану, рыдлёўку, вілы і граблі. Матарыял — дрэва і бляха.

## Морква.

— Мама, ці хутка будзем моркву садзіць?—пытаўся Янка.

— Моркву, дзіцятка, ня садзяць, а сеюць.

Морквачкі, мама, больш пасей!

Вось ускапалі грады, пасеялі моркву, рэпу. Дае маці і Янку насеньне.

— Гэта, мама, шэрыя казяўкі. Яны не павыпаўзуць, калі іх абгарнуць зямлёй?

— Павыпаўзаюць, сынок, сей!

Пасеяў Янка казявак, а маці прысыпала іх зямлёю. Зусім забыўся Янка аб сваіх казяўках, а з іх на градзе вырасла многа-многа зялёненькіх націнак-лісткоў. Побач з імі вырасла і зельле. Як убачыў Янка сваю зялёненькую градку, давай тады палоць. Асьцярожна вырываў зельле, морквы не чапаў: няхай ёй будзе прасторней. Няхай яе вырасьце многа, многа!

## Як садзіць гародніну.

На градах звычайна садзяць разам: 1) моркву і буракі; 2) гуркі, цыбулю і гарбузы; 3) фасолю, гарох і боб; 4) капусту, рэпу, рэдзьку і бручку. Мак сеецца паміж радамі іншых расьлін.



Сеюцца расьліны на такой адлегласьці:

| РАСЬЛІНЫ. | Адлегласьць насеньня ад насеньня. | Адлегласьць паміж радамі | Высаджваецца на адзін квадратовы мэтр. |
|---|---|---|---|
| | У сантымэтрах. | | (прыблізна). |
| Бручка . . . . . | 22 | 54 | 8 штук. |
| Капуста . . . . . | 69 | 44 | 4 „ |
| Рэпа . . . . . . | 22 | 9 | 45 „ |
| Рэдзька . . . . . | 9 | 35 | 30 „ |
| Буракі . . . . . | 18 | 44 | 13 „ |
| Цыбуля (насеньне). | 18 | 18 | 33 „ |
| Фасоля . . . . . | 9 | 35 | 30 „ |
| Гуркі . . . . . . | 22 | 35 | 12 „ |
| Бульба . . . . . | 53 | 49 | 4 „ |

## Як каты ловяць рыбу.

Адзін раз сядзеў я вельмі ціха на беразе невялікага ставу. На другім беразе кідала ікру плотка і дзеля гэтага выкідалася на траву каля самага берагу. Раптам я бачу, што вялікі кот асьцярожна цікаецца, паўзе і хаваецца каля берагу ў траве. Плоткі далей кідалі ікру, выкідаючыся на бераг. Кот кінуўся, схапіў адну плотачку і панёс яе ў зубох. Я расказаў гэта гародніку, каторы непадалёку ад мяне капаўся ў гародзе. Ен ані не зьдзівіўся, а, наадварот, расказаў мне, што раніцамі, калі яшчэ няма людзей, кожны дзень прыходзяць на ловы катоў 5-6 і болей. Разсядаюцца ў сукромных мясцох і ловяць рыбу.

## Асва і муха.

Асва злавіла муху і панясла яе ў сваё гняздо. Але вецер тапоршчыў мушынае крыльле, і яно перашкаджала асве ляцець.

Каб памагчы сваёй бядзе, асва села на траву і сваімі войстрымі, як ножні, шчэляпамі адрэзала крыльле ў мухі, а пасьля паляцела далей. Цяжка стала нясьці асве муху; села яна ізноў на траву і адрэзала галаву ў мухі. Цяпер ужо пажыву стала лёгка нясьці, і асва, здаволеная барджэй паляцела ў сваё гняздо.

## Дзённыя і начныя птушкі.

Раніцай, з усходам сонца, прачыхаюцца птушкі і пачынаюць свае песьні. Цэлы дзень яны пералятаюць з аднаго месца на другое, шукаючы сабе корму, будуючы гнёзды. Увечар кожная з птушак ляціць да свайго гнязда, хавае галаву пад крыло і з заходам сонца засыпаець.

Такія птушкі называюцца дзённымі,



таму, што ўдзень яны працуюць, а ў начы сьпяць. У той час, як адны засыпаюць, другія — філіны, совы — прачыхаюцца. Увесь дзень яны сьпяць у дуплах дрэў, ці дзе-небудзь у цёмным кутку.

З заходам сонца яны прачыхаюцца і лётаюць да сьвету. Калі такіх птушак абудзіць у дзень, то яны-б толькі тапарашчылі вочы, бо дзённы сьвет сьляпіць іх. Яны і лётаць удзень ня могуць, бо, усё-роўна як сьляпыя, ня бачаць нічога. Такія птушкі называюцца начнымі.

## Назіраньні над дажджом.

1. З якіх хмар ідзе дождж?
2. Ці нізка, ці высока стаяць хмары, калі ідзе дождж?
3. Якую карысьць прыносіць дождж?
4. Калі летам дождж непатрэбен?
5. Ці бачылі вы вясёлку пасьля дажджу?
6. Колькі колераў у вясёлцы? Нарысуйце вясёлку.
7. Адчаго бывае вясёлка?

## Гусі.

Гусь маецъ даўгую шыю, плоскі, жоўты дзёўб, ногі кароткія з шырокімі плёўкамі да плаваньня. Гусі вельмі любяць плаваць па вадзе і часта даюць нырка, каб выцягнуць з вады маленькую жабку ці рыбку. Гаспадыні кормяць гусей аўсом і мякінай, а маленькім гусяняткам даюць есьці мачоны гарох і травіцу.

Улетку малыя дзеці пасьцяць гусей на пожнях і на папарах. Адных гусей пусьціць нельга ў поле, бо яны надта шкодны; як іх не глядзець, дык зараз уб'юцца ў шкоду. Гусь надта ласкавая птушка і толькі, як водзіць сваіх маленькіх гусянятак, сыкае і кідаецца, калі хто да яе падойдзе. Пры стадзе гусей ходзіць наўперадзі гусак, з паднятай галавой, навокал аглядаючыся, ці няма якое напасьці на яго малых дзетак. Ну і бяда, як хто падойдзе блізка да стада. Кідаецца тады гусак, з усей сілы выцягнуўшы шыю, сыкае, а калі ўдаецца, то ўшчыпнець балюча.

З гусей мы маем смачнае мяса, шмалец, яйкі, мягкі пух і пер'е на падушкі. Даўней гусіным пер'ем людзі пісалі.



## Дзікія гусі.

Дзікая гусь танейшая за свойскую і пер'е ў яе цямнейшае. Дзікія гусі гнязьдзяцца дзе-небудзь на ўзгорках, а жывяцца рыбамі, жабамі і дабром. Дзікія гусі ўначы часта робяць шкоды: уб'юцца дзе ў дабрыну і чыста яе здратуюць. А хітры-ж яны надта: адразу ніколі ня сядуць на месца, аж пакуль не абглядзяць, не аблятуць навокал раз, другі, не праканаюцца, што тут ніякага страху няма.

Як настае восень, дзікія гусі адлятаюць ад нас на вырай.

## Крынічная вада.

Бегалі хлопцы за вёскаю ў полі. Аднаму з хлопцаў, які больш за ўсіх бегаў на полі, надта захацелася піць. Успомніў ён, што тут недалёка ёсьць крыніца сьцюдзёнае вады, і, выціраючы пот рукавом, пабег барджэй да крыніцы.

Напіўся вады і лёг пад дрэвам супачыць, аж пачуў, што яму нейк у бок закалола. Ледзь ён да-дому дацягнуўся

і лёг, — дый тры тыдні прахварэў. Як паздаравеў крыху, дык і пачаў жаліцца матцы:

— Гэта я праз крынічную ваду захварэў: каб ведаў, што мне так нядобра будзе, — ня піў-бы яе.

— Не вада тут вінавата, сынок, — сказала матка, — а твая неасьцярожнасьць — ніколі ня трэба ўгрэўшыся піць сьцюдзёную ваду.

---

ПЫТАНЬНЕ: Як вы ахоўваеце сваё здароўе летам?

## Скарыстайце сонечныя дні.

Сонца робіць на здароўе чалавека добры ўплыў.

Сонцам карыстаюцца для лячэньня пры рожных хваробах, галоўным чынам, пры малакроўі і слабасьці.

Лячэньне сонцам завецца — лячэньнем „сонечнымі ваннамі“.

Летні час трэба скарыстаць, каб узмацніць сваё здароўе. Калі пасеш статак, альбо дапамагаеш баранаваць поле — пакрый галаву хусткай і працуй без



кашулі. (Галаву абавязкова трэба пакрываць, каб не зрабіўся сонечны ўдар).

Трэба пры гэтым моцна памятаць, што першыя два-тры разы ня трэба доўга паліцца на сонцы, бо апячэцца скура, будзе дужа сьвярбець, а потым і зусім сойдзе.

## На полі ўвясну.

Люблю я прывольле
Шырокіх палёў,
Зялёнае мора
Буйных каласоў.

І грушы старыя,
Што ў жыце шумяць,
Зялёныя межы,
Далёкую гладзь.

Люблю пазіраць я
На поле вясной,
Як ветрык жартліва
Плыве збажыной.

Калышыцца жыта,
Радамі бяжыць,
Плыве безустанку
І ціха шуміць.

# V. ЛЕТА.



## Вёска летам.

Пусты ўлетку нашы сёлы,
Усе на полі за сярпом,
Толькі дзетак крык вясёлы
Льлецца ў вуліцах руччом.
Вецер кудры іх цалуе,
Мые дождж іх бледны твар,
З імі сонейка жартуе
І цяпло ім шле, як дар.

## Лета.

Высока стаіць ясная сонца на чыстым небе. Ціха ўсюды. Збожжа на полі ледзь скалыхнецца, як павее гарачы вецер, і



ўзноў заспакоіцца, не зварухнецца.

„Парыць, як у гаршку“, кажуць вясковыя людзі. Далёка-далёка цягнецца востраверхая палоска лесу, заслаўшыся сінявата синявую смагаю, ня то туману, ня то дыму. Усё прыціхла, усё хаваецца ў цянёк ад гарачага сонца. Нават гутарлівыя птушкі перасталі пяяць і сядзяць дзе-небудзь на галінах у халадку зялёных лістоў. Толькі конікі адны трашчаць у траве ды мігаюцца беленькія і чырвоненькія матылькі, трапечучы сваімі крылцамі. Ціха! — Чутна, як пралятаюць працавітыя пчолкі.

„Ву—у—ум“, разсякаюць яны паветра борздым палётам сваім.

У небе дзе-ня-дзе праплыве пушыстая хмарка, як ком воўны, і схаваецца за лесам, або растане, як сьнег, далёка ў небе.

## Лета.

Звоніць поле доляй, воляй,
Звоніць поле ў каласкі;
Ў буйным лесе зьзяюць, граюць
Краскі, мошкі, матылькі.

Рэчка ўецца ды сьмяецца
Да зялёных лоз і вольх,
А ў вадзіцы шыбка рыбка
Шмыгаціць на паплаўкох.

## Назірайце ў чэрвеню.

1. Калі зацьвіў бэз?
2. Вядзеце каляндар пагоды, колькі было ясных, хмарных і даждлівых дзён. Запісвайце, калі будуць бура, навальніца, град.
3. Калі зацьвіла ліпа?
4. Калі зацьвіла маліна?
5. Калі зацьвілі васількі ў жыце?
6. Калі зацьвіло жыта?
7. Калі з апалонікаў зробяцца жабкі?
8. Калі выведуцца маленькія вераб'і?
9. Калі выведуцца ластаўкі?
10. Калі пачнуць лётаць маладыя галкі, шпакі, вароны і грачы?

---

Свае назіраньні запісвайце ў дзёньнік.



## Сушь.

Дожджыку просіць зялёнае жыта,
Хоча дажджу ярына.
Вось з-па-за лесу далёка, далёка
Хмарка на небе ўзыйшла;
Цёмная хмарка адна - адзінока
Вышэй і вышэй плыла.
Ніва заціхла, замёрла; здаецца,
Не скалыхнецца яна;
Змучаны колас а не пахінецца.
Поўна надзей цішына.
Думае ніва: дожджык пакропіць,
Смагу прагоніць палёў,
Цёмная хмара краем хоць чэпіць
Дзетак яе — каласоў.

## У летні дзень.

— Цівік, цівік! — закрычала ластаўка і за ёю птушкі пачалі варушыцца і брацца за работу — хто гнязьдзечка канчае, хто дзетак корміць. Зашастаў цяжкім крыльлем бусел і спусьціўся на балота.

— Плюсь, плюсь, плюсь! — адна за аднэй жабы ў ваду; а крыху памаўчаў-

шы, ізноў пачалі выводзіць свае сьпевы, быццам дражнячы бусла, што яны яго не баяцца.

Усход усё чырванее і чырванее і паказваецца ўрэшце сонейка. Усё заварушылася, усе ўзяліся за працу.

— Цс-сык, цс-сык, цс-сык!—зьвіняць косы. Чалавек дваццаць касцоў з ахвотаю касілі густую зялёную траву. Шнур іх расьцягнуўся, і кожны, не сьпяшаючыся, памаленьку ішоў наўперад. Сонейка паднялося ўжо вышэй, зрабілася меншым. На балоце відаць былі толькі радочкі скошанай травы.



Прыйшлі дзяўчаты з граблямі варушыць падсохлую траву і разам запяялі песьню. І палілася яна чыстая, працяжная, як рака.



## За касой.

Кожны раз, як жывой муравой-дываном лета высьцеле луг, сенажаць, косы сьвішчуць, зьвіняць над ракой за сялом, за касой касцоў песьні чуваць.

Ясна косы блішчаць у цьвітучай расе, высьцілаюць пракос у пракос; песьні ветрам шумяць, пушча водкліч нясе, пушча слухае песень і кос.

## Вучоны сын.

Сын вучыўся ў горадзе і прыехаў на лета да бацькі ў вёску. Бацька і кажа; „Вазьмі ты, сынок, граблі, пойдзем сена паграбаем“. А сын адказаў: „Я за навукамі ўсе мужыцкія словы забыўся. Граблі?... Што гэта такое за граблі?“ Бацька нічога не сказаў, а сын пайшоў сабе шпацэраваць; ходзіць ён рукі назад заклаўшы, не агледзіўся неяк ды наступіў на граблі. А тыя, як падыймуцца, як трэснуць яго па лобе. Ен тады не сьцярпеў. Як крыкне: „Вось нягодныя граблі, моцна як б‘юцца“.

## Перад бураю.

Сонца зранку жарам пыша,
Ветрык лісьце чуць калыша,
Вее чуць паўзьверх зямлі.
Лес і поле з збажыною,
Апавітыя смугою,
Задуменныя стаяць.
І сярод цішы трывожнай
Ціха неяк ды пужліва
Сталі хмаркі вынікаць.
Шырыць сонца клуб іх белы
І маланак громаў стрэлы
Ім на страх зямлі куе.
А зямля як-бы самлела,
Нават дуб стары нясьмела
Зрэдка лісьцем павядзе.
Змоўклі ўсе вакруг абшары,
Бо замысьлілі штось хмары...
Ой, знаць бура загудзе!

## Дождж.

Хмары неба апранулі,
Даль закрылася імглой.
Вось загуў дождж ў аддаленьні,
Вецер дружна праляцеў.



Закачаўся да карэньня
Лес, і глуха зашумеў.
Як жывое срэбра, важка
З хмар пярэдніх дождж упаў,
За маланкай сьледам цяжка
Гром страшэнны загучаў.
І, здавалась, не стрымала
Хмара цяжару грамоў,
Раптам ставы разарвала,
Быццам рэчка лёд ўзламала
І пабегла з берагоў...

## Каласкі.

Пытаўся сын у бацькі: „Чаму гэта на полі, каторыя каласкі стаяць роўна, галовы ўгару пазадзіраўшы, а каторыя ўніз пахіліліся?“ Бацька сказаў: „Тыя, што галовы пазадзіралі, дык гэта пустыя каласкі; з іх нічога ня будзе. А тыя, што ўніз пахіліліся, у тых поўна зярнятак. Яны нас і прахарчуюць праз зімку“.

Тады сын сказаў: „Цяпер я ведаю, хто ўгару нос задзірае“.

## Воўк і ягнё.

У гарачы летні дзень падыйшло ягнё да ручча, напіцца вады. Недалёка хадзіў галодны воўк. Як убачыў ён ягнё, дык і захацелася яму яго зьесьці. Але каб гэта жаданьне ня так кідалася ў вочы, ён пачаў чапіцца да ягняці: „Чаму ты мне ваду муціш?“ — Выбачайце, панок! — пакорна адказвае ягнё: я-ж стаю ў вадзе ніжэй за вас. Як я магу вам ваду муціць?“ — „Дык што-ж, я маню? — закрычаў воўк; — я цябе добра памятую, як ты яшчэ залетась мяне лаяў“. — „Калі мне яшчэ году няма“. — „Дык гэта быў твой брат, ці бацька, хто-небудзь з вашага авеччага роду; а цяпер я ня маю часу слухаць твае гутаркі“ — сказаў воўк і пацягнуў ягнё ў лес.

## Малпа і сабака.

Два хлопчыкі-італьянцы мелі вучоную малпу. Малпа гэта была разумная і ўмела так сьмешна вырабляцца, што каля хлапцоў з іх малпай заўсёды зьбіралася вялікая чарада людзей. Адзін раз



на малпу кінуўся сабака і пакусаў яе. Хлапцам стала шкода свае малпы і яны прыдумалі, як навучыць малпу памсьціцца свайму ворагу.

Вярнуўшыся ў хату, адзін са хлапцоў стаў, як на чатыры лапы, і пачаў брахаць; а другі хлапец узьлез на яго, цягаў яго за валасы і ўдаваў, быццам б‘ець палкай па галаве. Малпа пільна прыглядалася, што яны робяць.

На другі дзень выйшлі хлапцы з сваёй малпай на вуліцу; ізноў ля іх сабралося шмат народу. Учорашні сабака, як убачыў малпу, так і кінуўся на яе, але цяпер малпа ня была дурная, сама скочыла на хрыбёт сабацы, запусьціла адну руку ў поўсьць, а другой пачала, колькі стала сілы, біць сабаку.

Сабака ледзь здужыў вырвацца з рук малпы, і пасьля гэтага, убіўшы хвост, уцякаў, як мага, сустрэўшы малпу.

## Нёман.

Льецца Нёман паміж гораў,
Сьветлы чысты, як з расы,
Накапаў ён ям і нораў,
Гоніць ваду праз лясы.

Колькі раз рыбацкі човен,
На грудзёх тваіх гуляў!...
Гой, ты, Нёман, быстры Нёман,
Колькі дум ты мне нагнаў!
У ціхі вечар над табою
Дудка плакала ня раз,
І каціласяя сьлязою
Песьня ў раньні летні час.
Над табою месяц круглы
У ясным небе ціха плыў,
І з табой, высокі, смуглы
Лес ціхутка гавырыў.
Перәрэзаў ты край родны
Беларуса-мужыка...
О, наш чысты, наш свабодны,
Нёман, быстрая рака.

## На начлезе.

У летку выганяюць коні на-нач ў поле пакарміцца. Днём мухі і авадні не даюць ім пакою, ды і працаваць трэба. Увечары выганяюць, а прыводзяць толькі раніцою.

Вадзіць на начлег коні для сялянскіх дзяцей, асабліва для хлопчыкаў, вялікае сьвята. Пасьля вячәры зьбіраецца ўся



вёска разам весьці коні. У парваных старых сьвітках, часта бяз шапак, садзяцца хлопцы на самых бойкіх сваіх каняк і з шумам, з вясёлым крыкам і гіканьнем выяжджаюць з вёскі.

Прыедуць на месца, папутаюць коні, а самі зьбяруцца ўсе разам і разьвядуць вогнішча, — тут яшчә весялей. Гавораць казкі, апавяданьні, пяюць песьні. Спаць — толькі прылягуць, а там ужо і золак зьне, трэба ехаць да хаты.

## Назірайце ў ліпені і ў жніўні.

1. Вядзеце каляндар пагоды.
2. Калі зацьвіў авёс?
3. Калі зацьвіце рабіна?
4. Калі пачырванее рабіна?
5. Калі перастане кукаваць зязюля?
6. Калі перастане сьпяваць салавей?
7. Калі пачнуць лётаць каля хат гурткі доўгахвостых сініц?
8. Калі пасьпелі суніцы і чарніцы?
9. Калі пачалі жаць авёс, ячмень і жыта?
10. Калі пачалі касіць?
11. Калі вы першы раз елі новую бульбу?
12. Калі пасьпелі яблыкі?

## Вячорныя хмаркі.

Сонейка заходзіць
І кладуцца цені,
І плывуць хмарынкі
Ў ціхім задуменьні.

Хмаркі валатыя,
Вы — прастору дзеці,
Ходзіце вы вечна
Па-ўсім белым сьвеце.

Праплывеце-ж хмаркі
І над родным краем,
Над мужычым полем,
Над зялёным гаем.

## Мурашкі.

Прыйшоў чалавек у лес і ўбачыў там мурашнік. Поўзаюць ля яго мурашкі і кожная з іх мае сваю работу. Узяў чалавек камочак зямлі і накрыў ім адну мурашку.

Ня можа мурашка выпаўзьці з-пад камочка, відаць толькі, як шавеляцца яе вусікі.

Чакае чалавек, што далей будзе.

Вось адна мурашка ўбачыла, якая бя-



да здарылася з сястрой; падбегла, хоча памагчы ёй вылезьці, але нічога зрабіць ня можа. І пабегла некуды. Праз некалькі часу шмат мурашак прыпаўзло да камочку зямлі, згрудзіліся яны навокал і пачалі разьбіраць па дробных кавалачках зямлю, пад каторай была мурашка. Борзьдзенька расьцягалі яны ўсю зямлю і, як толькі паднялася на ногі мурашка, усе пабеглі ізноў да сваёй працы.

## Алесь храбры.

Сяргей і Алесь пайшлі ў лес па ягады. Дарогаю Сяргей пытаецца:

— Алесь, ты баішся ваўкоў?

Алесь хваліцца:

— Чаго-ж іх баяцца? Як дам палкаю па галаве — заб'ю!

Зайшлі крыху ў лес. Алесь аглядваецца. Цёмна кругом, галінкі пад нагамі хрусьцяць і здаецца, што нехта хоча схапіць сваімі даўгімі рукамі. Сяргей пытаецца:

— Баішся?

А Алесь адказвае:

— Хіба-ж я дзяўчынка? Чаго-ж мне баяцца?



Сяргей узяў дый крыкнуў:
— Ваўкі!
Алесь аж прысеў ад перапуду:
— Ма-а-ма!...
А Сяргей пасьля і сьмяецца:
— Эх ты, Алесь храбры!

## Васількі і каласы.

У ціхі летні вечар пайшлі дзеці з маткаю ў поле. Дарога ішла паміж дзьвюмя сьцянамі высокага жыта.

— Чаму гэта, мама, — папыталася дзяўчынка, — тут жыта такое нядобрае: адны каласы, а васількоў дык зусім няма?



— Бачыш, мая дачушка, — адказвае маці, — дзеля таго ратай гэтак цяжка працуе, каб каласы добра ўрадзіліся; а каб васількі вырасьлі, дык і працаваць ня трэба: самі растуць, але карысьці ад іх ніякай няма. Яшчэ калі іх многа вырасьце ў жыце, дык яны толькі перашкаджаюць расьці збожжу.



## Жняя.

Ніва сьпелая жаўцее,
Сонца летняе пячэ, —
Жне сваю палоску жнея,
Пот цурком з яе цячэ.

Аж чуваць, як каласамі
Ніва вясёла шуміць
І высокімі снапамі
Хоча поле ўсё закрыць.

Завіхайся добра, жнея, —
Трэба ўсё сягоньня зжаць.
Заўтра-ж пойдзем да Мацея
Ўсёю вёскай памагаць.

## Грыбы.

Дзьве дзяўчынкі ішлі дамоў з грыбамі.

Ім трэба было перайсьці цераз чугунку. Яны думалі, што цягнік далёка, вылезьлі на насып і пайшлі праз рэйкі.

Раптам загудзеў цягнік. Старэйшая дзяўчынка пабегла назад, а малодшая пабегла ўперад.

Старэйшая дзяўчынка закрычала:

— Ня ідзі назад!

Цягнік быў ужо блізка і вельмі шумеў. Малодшая дзяўчынка падумала, што сястра ёй гавора бегчы назад. Яна пабегла назад праз рэйкі, абступілася, рассыпала грыбы і пачала зьбіраць іх.

Цягнік быў зусім блізка і гудзеў, што было моцы.



Старэйшая дзяўчынка закрычала: „Кінь грыбы!“ Малая думала, што сястра крычыць, каб яна сабрала грыбы, і ўсё поўзала паміж рэяк.

Машыністы ня мог стрымаць цягніка і наехаў на дзяўчынку.

Старэйшая дзяўчынка крычала і плакала. Усе пасажыры глядзелі з вагонаў, а кандуктар пабег у канец цягніка, каб паглядзець, што зрабілася з дзяўчынкай.

Калі цягнік прайшоў, усе убачылі, што дзяўчынка ляжыць паміж рэйкамі галавою ўніз і не варушыцца.

Потым, калі цягнік ад'ехаў далей, дзяўчынка падняла галаву, ускочыла на калені, сабрала грыбы і пабегла да сястры.

## Як бабры запынілі рэчку.

Казалі ўсе людзі, што ў нашай пушчы вядуцца бабры, але я іх ніколі ня бачыў. А быў у мяне лужок, каля рэчкі, ля самае пушчы. Улетку іду я з касой касіць, ажна бачу: напоперак рэчкі нешта — яз, ня яз—зроблены, а вада зьвярнула праз мой лужок. Падходжу бліжэй і бачу — нешта нырнула. Прыг-

лядаюся, ажно гэта цёмненькі зьвярок блізка з сабаку, а хвост у яго, як у рыбіны, луской парослы. Гэта бабёр. І рэчку запынілі бабры: яны паробілі там сабе гнёзды. Гнёзды свае пабудавалі бабры з круглячкоў, карэньня, хворасту, каменьня і гліны. Каля ракі расьлі ў добрыя прыгаршчы ясені: бабры іх парэзалі зубамі, паперагрызалі на бэлечкі і ўжылі да свае работы, як ляпей не патрапіў-бы зробіць і чалавек.

## Што рабіць улетку.

### Назірай пагоду.

Назірай і запісвай кожны дзень, якая была пагода.

### Назірай у полі.

1. Якую збажыну пачалі жаць першую? Калі пачалі жаць?
2. Як у вас жнуць жыта?—ярыну?
3. Як складаюць жыта на полі?
4. Калі пачалі гатовіць поле пад жыта?
5. Калі сеялі жыта?
6. Калі пачалі капаць бульбу?

Зьбярэце збор узораў усіх збожавых



расьлін, напішыце пад кожнай назву і дзень, калі пачалі яе жаць.

### Назірай на сенажаці.

1. Калі пачалі касіць?
2. Калі зьвязьлі сена з сенажаці?

### Назірай у садзе.

Запісвайце, калі пасьпелі яблыкі, ігрушы, вішні, сьлівы і г. д.

### Назірай у гародзе.

Запісвайце, калі пасьпела якая гароднiна.

### Назірай над птушкамі.

1. Назірайце, як птушкі сядзяць на яйках, як кормяць сваіх дзяцей, калі маладыя птушкі пачынаюць лётаць.
2. Калі перастала кукаваць зязюля?
3. Калі перастаў сьпяваць салавейка?
4. Якія птушкі выбіраюцца ў вырай?

### Прыглядайся да працы сям‘і.

1. Як рыхтавалася ваша сямь‘я да жніва?—да касьбы?
2. Хто ў вас жаў? — касіў?
3. А што ты рабіў?
4. Ці была ў вас агульная праца

ўсёй вёскаю? Ці дапамагалі каму ўсе?

Па пісаньні табе многа працы. Незабывайся і пра кніжку. Чытай хаця адну гадзіну ў тыдзень.

## Вучню.

Чэсным будзь і будзь праўдзівым,
Паважай сябе й другіх,
Да навукі будзь руплівым, —
Будзеш ў старасьці шчасьлівым,
Не спаткаеш дзён благіх!





# ЗЬМЕСТ.

## IV. Вясна.

## V. Лета.